# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК

ГАЛОЎНАЕ

Ў НУМАРЫ:



КРАСАВІК 1935 г. 7

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Звязда"

# ЗМЕСТ



## ПАПРАЎКА

У 5—6 нумары журнала «Большэвіцкі друк» на 57 стар. скажоны подпіс аўтара заметкі «Што я атрымаў за два месяцы вучобы». Надрукавана С. Шчарбакоў, а павінна быць **С. Шчэрбаў**. На той-жа старонцы пад клішэ павінен быць подпіс: **Фядот Шчарбакоў**—рэдактар насценгазеты калгаса імя Кірава. Аршанскага раёна.

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Бальшэвіцкі друк

КРАСАВІК 1935 г. № 7 (31)

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы ў месяц.

*Нам. адказнага рэдактара А. ЦЫПІНА*

Адрас рэдакцыі і выдавецтва МЕНСК, Совецкая 63, тэл. 22412

## ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ

**6—7 красавіка 1935 года адбыўся чарговы пленум ЦК КП(б)Б разам з сакратарамі РК КП(б)Б.**

**Пленум абмеркаваў наступныя пытанні:**

**1. Аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы ў КП(б)Б — даклад сакратара ЦК КП(б)Б тав. ВАЛКОВІЧА.**

**2. Аб ходзе выканання рашэння ЦК ВКП(б) аб арганізацыі аддзелаў парткадраў менскага і гомельскага ГК КП(б)Б — паведамленне загадчыка аддзелам кіруючых партыйных органаў ЦК КП(б)Б т. РУБІНШТЭЙНА, другога сакратара і загадчыка аддзелам кадраў менскага ГК КП(б)Б тав. ХАДАСЕВІЧА і другога сакратара і загадчыка аддзелам кадраў гомельскага ГК КП(б)Б тав. КЛІМЧУКА.**

**3. Аб арганізацыі і правядзенні веснавой сяўбы 1935 года і мерапрыемствах па павышэнню ўраджайнасці (т. БЕНЕК).**

**4. Аб мерапрыемствах у сувязі з узнагароджаннем БССР ордэнам Леніна — паведамленне тав. ГАЛАДЗЕДА.**

**Пленум увёў у склад кандыдатаў у члены бюро ЦК КП(б)Б тт. КУДЗЕЛЬКА, СТЭРНІНА — рэдактара газеты «Звязда» і т. ЧАРНУШЭВІЧА — народнага камісара асветы БССР.**

**Пленум зацвердзіў тав. РУБІНШТЭЙНА загадчыкам аддзелам кіруючых парторганаў ЦК КП(б)Б і кааптаваў яго ў склад членаў ЦК КП(б)Б. Пленум таксама кааптаваў у склад членаў ЦК КП(б)Б тав. ЛЮБОВІЧА—старшыню Дзяржплана БССР і тав. СТАКУНА — ўпаўнаважанага Народнага камісарыята харчовай прамысловасці Саюза.**

**У сувязі з пераходам тав. Кудзелька на адказную совецкую работу пленум аслабаніў тав. Кудзелька ад абавязкаў загадчыка совецка-гандлёвым аддзелам ЦК КП(б)Б.**

**Пленум вывеў са складу кандыдатаў у члены ЦК КП(б)Б тав. ЧОРНАГА — нам. старшыні Дзяржплана БССР за антыпартыйную пазіцыю ў пытаннях тэорыі планавання з перадачай яго справы ў парткалегію КПК.**

**ЦК КП(б)Б.**

# Таварышу Сталіну

Дарагі таварыш СТАЛІН!

Мы, большэвікі Беларусі, сабраўшыся на пленум ЦК КП(б)Б па пытаннях сяўбы, калгаснага будаўніцтва і партработы, таксама абмеркаваўшы пытанне аб мерапрыемствах у сувязі з узнагароджаннем Беларускай ССР і нашых кіраўнікоў тт. ГІКАЛО і ГАЛАДЗЕДА вышэйшай узнагародай — ордэнам Леніна, шлем табе, родны наш правадыр і настаўнік, палкае большэвіцкае прывітанне.

Гэта высокая ўзнагарода Беларусі і яе кіраўнікоў выклікала ў сэрцах усіх членаў КП(б)Б, членаў комсамола, у сэрцах рабочых і калгаснікаў БССР вялікую радасць і задаваленне за тую ацэнку нашай работы, якая праводзілася партыйнай арганізацыяй, советамі і ўсімі працоўнымі Беларусі на рубяжы з капіталістычным Захадам, пад тваім асабістым непасрэдным і мудрым кіраўніцтвам. Гэта высокая ўзнагарода выклікала магутны ўздым і новую хвалю энтузіязму рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных Беларусі на далейшую барацьбу за ўздым гаспадаркі, культуры, за паляпшэнне якасці работы на ўсіх участках, за ўмацаванне абароны нашай радзімы, за пэратварэнне Беларускай ССР у непрыступную крэпасць соцыялізма на захадзе Совецкага Саюза, на рубяжы з ваяўнічым фашызмам.

Запэўняем цябе, таварыш Сталін, што большэвікі Беларусі, усе рабочыя і калгаснікі, як адзін чалавек, не шкадуючы сваіх сіл, не пакладаючы рук, будуць біцца за далейшыя поспехі соцыялістычнага будаўніцтва, за ператварэнне прыгранічнай Беларускай ССР у квітнеючы край соцыялізма, і тым самым апраўдаем высокую ўзнагароду Саюза, якую атрымала БССР.

Жывучы і працуючы непасрэдна на рубяжы з капіталізмам, мы ні на адну мінуту не забываем тваіх указанняў быць пастаянна пільнымі і бязлітаснымі да класавага ворага. Мы і далей будзем бязлітасна выганяць і выкарчоўваць контррэволюцыйнае зіноўеўска - троцкісцкае атрэп'е. Мы не забываем, што астаткі разгромленага ворага — кулацтва і яго ідэолагаў буржуазных нацыяналістаў — яшчэ не склалі зброі, дый не складуць яе добраахвотна, а будуць усімі сродкамі пакасціць нам, выконваючы соцыяльны заказ зарубежнага фашызма і ў саюзе з ім. Як і раней, мы будзем даваць сакрушальны адпор усякім спробам нацыяналістычных ворагаў пахістаць моц і магутнасць нашага вялікага Совецкага Саюза.

А калі фашызм папрабуе напасці на Совецкі Саюз з захада і тым самым парушыць нашу працу, то клянемся табе, таварыш Сталін, што ўсе мы аддамо сваё жыццё да апошняй кроплі сваёй крыві на абарону нашай вялікай радзімы — створанага табой вялікага Совецкага Саюза.

Пленум ЦК КП(б)Б запэўняе цябе, таварыш Сталін, што твае ўказанні аб умацаванні арганізацыйнай і партыйна-выхаваўчай работы будуць служыць нам пастаянным кіраўніцтвам у штодзеннай практычнай унутрыпартыйнай рабоце, і КП(б)Б будзе і далей маналітнай і яшчэ больш ідэйна згуртаванай вакол нашага ЦК ВКП(б) і вакол цябе, друга, правадыра і настаўніка.

Нахай жыве наша слаўная партыя Леніна—Сталіна!

Нахай жыве геніяльны і мудры правадыр таварыш Сталін!

# ЛЕПШ АСВЯТЛЯЦЬ ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

Буйныя недахопы арганізацыйнай і выхаваўчай работы, ускрытыя за апошні час ва многіх партыйных арганізацыях, тлумачацца ў немалой меры і тым, што друк аслабіў, а сям-там зусім спыніў асвятленне пытанняў партыйнага будаўніцтва.

Частка прэсы — раённай, абласной і нават цэнтральнай — не ўмее адрозніваць і выдзяляць унутрыпартыйную работу — арганізацыйную, масавую, палітычную, выхаванне комуністаў — ад гаспадарчай дзейнасці, якая ў кожным горадзе, заводзе, калгасе, натуральна, узначальваецца партыяй. Газеты падражаюць тым партыйным камітэтам, якія, забыўшы арганізацыйна-партыйныя і выхаваўчыя свае задачы, усю ўвагу канцэнтруюць на справах гаспадарчых.

Гэта выразна можна прасачыць на большасці раённых газет. Аткарская газета «Коммунист» (Саратаўскі край) завяла спецыяльны аддзельчык «На партыйныя тэмы». Аднак, пад гэтым абавязваючым загалоўкам рэдакцыя ўмудраецца змяшчаць матэрыялы аб рамонце трактараў, гаспадарчай падрыхтоўцы да сяўбы. Не зразумела толькі, каго хоча ашукаць аткарскі рэдактар тав. Назараў, прыкрываючыся загалоўкам «На партыйныя тэмы».

Многія абласныя і рэспубліканскія газеты недалёка адыйшлі ад сваіх раённых субратоў. «Курская правда» — газета абласная — завяла пастаянны аддзел пад загалоўкам «Партбудаўніцтва». Чаго лепш? Але загаловак гэты ілюзорны. Варта пералістаць нумары курскай газеты, каб заўважыць, што аддзел партыйнага будаўніцтва часта нічым не адрозніваецца ад матэрыялаў газеты, прысвечаных прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Рэдактар «Курской правды» тав. Князеў своеасабліва разумее задачы кіруючай абласной партыйнай газеты. Папрабуйце па курскай газеце скласці хоць малейшае прадстаўленне аб партыйным жыцці, аб партыйнай рабоце ў вобласці. Вам гэта не ўдасца. Калі судзіць па газеце, рэдагуемай тав. Князевым, то ў Курскай вобласці ўласна ніякай партыйнай работы няма. Месяцы праходзяць і рэдакцыя не лічыць патрэбным надрукаваць хоць-бы адзін артыкул па пытаннях партыйнай работы, партыйнага жыцця вобласці. Усяго больш дзіўна, што гэтакі «папрамак» газеты, відаць, зусім устрайвае курскі абком партыі.

Спрашчэнства, шаблон — другі недахоп у пастаноўцы пытанняў партыйнага будаўніцтва на старонках друку. І асабліва ярка гэта можна праілюстраваць на партыйнай вучобе. Калі пішуць нашы газеты аб гэтым надзвычай важным участку партыйнай работы? Галоўным чынам, глыбокай восенню і позняй вясной. Асноўны сэнс асенніх пісанняў — арыфметычныя выкладкі: колькі гурткоў і школ арганізавана, які процант наведвання. Вясной-жа часта ў празмерна захопленых тонах падводзяцца амаль выключна лічбовыя вынікі вучобы. Аб сутнасці партыйнай асветы, аб надзённых пытаннях сучаснасці, гісторыі партыі, якія павінны быць асновай выхавання комуністаў, амаль не пішуць. У доўгія месяцы «навучальнага сезона» аб партыйнай асвеце пішуць хіба толькі ў экстраардынарных выпадках, і актыўнага ўздзеяння на змест і метады заняткаў газета не аказвае.

Ці трэба даказваць, што такі фармальны падыход да сур'ёзнай справы, якім з'яўляецца марксісцка-ленінскае выхаванне комуністаў, зусім нецярпімы.

Пры ўсім тым вельмі часта мы сутыкаемся з некрытычнай любоўю газет да ўсякіх «ноўшэстваў», іменна ў метадах партыйнай работы. Друк, зразумела, павінен вышукваць і заахвочваць кожную новую, апраўдаўшую сябе форму масавай работы, палітычнага выхавання. Гэта бясспрэчна.

Але ў нас, на жаль, ёсць рэдактары, гатовыя папулярызаваць навінкі прэпенькія і шкодныя. Нядаўна «Правда» пісала аб такім заўзятым рэдактары газеты «Социалистическая Молдавия», — які папрабаваў замест агульнапрынятых, выпрабаваных форм масавай работы ў калгасах выдумаць і ўкараніць «ноўшаства» — пасаду памочнікаў брыгадзіра па масавай рабоце пры наяўнасці парт-

орга. Характэрна, што асноўныя, дзесяцігоддзямі правераныя формы партыйнай работы, партыйнага выхавання, як, напрыклад, агульны сход комуністаў, не знаходзяць адлюстравання на старонках такіх газет — аматараў сэнсацыйных выдумак.

Велізарнае значэнне партыйных сходаў з асобай сілай падкрэслена ў апублікаваным нядаўна дакуменце Ленінградскага гаркома ВКП(б): «Партыйныя камітэты, цэхпарторгі і парттрупоргі павінны своечасова і ўсебакова падрыхтоўваць партыйныя сходы, шляхам інфармацыі ўсіх членаў партыі аб парадку дня схода не пазней чым за 2—3 дні да схода з папярэднім асвятленнем пастаўленых пытанняў у заводскім друку, шырокім прыцягненнем членаў партыі да падрыхтоўкі пытанняў і рашэнняў партыйных сходаў і т. д.».

А між тым, наш друк не аддае ўвагі, не рыхтуецца да партыйнага дня, да схода партыйнага актыва. Не рыхтуецца сам і не падрыхтоўвае чытача. Можна па пальцах пералічыць газеты, якія аддалі калі-небудзь партыйнаму дню свайго горада ці раёна перадавы артыкул.

Зразумела, гэта не выпадковая з'ява. Тут сказваецца адарванасць газеты ад надзённых, вельмі важных пытанняў партыйнага будаўніцтва, ад сваіх партыйных камітэтаў і нізавых партыйных арганізацый.

Работа на вытворчасці, на сваім службовым пасту — важнейшы паказальнік партыйнай большэвіцкай сутнасці таго, ці іншага комуніста. Але паказальнік гэты не дае поўнага, вычарпальнага ўяўлення аб члене партыі. Ёсць у нас сотні добрых беспартыйных гаспадарнікаў і совецкіх дзеячоў, тысячы выдатных беспартыйных старшынь калгасаў. Комуніст, на якой-бы рабоце ён не знаходзіўся, абавязан быць не толькі перадавіком на вытворчасці, але і абавязкова прымаць актыўны ўдзел у партыйным жыцці: арганізацыйным, ідэйна-палітычным, выхаваўчым. Гэты бок дзейнасці кожнага комуніста трэба знаходзіць і ўмела асвятляць на старонках нашай прэсы. Газеты абавязаны штодзённа друкаваць такі матэрыял, які дапамагае большэвіцкаму выхаванню шырокіх мас працоўных.

Поўнакроўнае і прыгожае жыццё нашай краіны. Лепшыя газеты імкнуцца найбольш поўна і рознастайна яго адлюстраваць. У апошнія месяцы наглядаецца ва многіх газетах здаровая цяга да рознастайнасці тэматыкі, багатай інфармацыі аб усіх галінах жыцця нашай краіны і людзей яе, цяга да больш жывой, яркай літаратурнай апрацоўкі матэрыялу. Між тым інфармацыя аб партыйным жыцці недапушчальна скупая. Артыкулы і карэспандэнцыі на партыйныя тэмы — сухія, дрэнна апрацаваны літаратурна. Часта — гэта рэзультат слабай літаратурнай і палітычнай падрыхтоўкі людзей, узначальваючых і працуючых у аддзелах партыйнага будаўніцтва.

Пара пакончыць з гэтым становішчам. Аддзелы партыйнага будаўніцтва — не «пасынкі», а асноўныя аддзелы газет. Там, дзе яны яшчэ такімі не сталі, трэба дабіцца, каб ужо ў бліжэйшы час яны занялі і ў рэдакцыях, і на газетных старонках падабаючае месца.

Партыйнае жыццё толькі тады будзе цікава і ярка асвятляцца, калі рэдакцыі па-сапраўднаму зоймуцца гэтай справай, цесна звяжуцца з нізавымі партыйнымі арганізацыямі, партыйным актывам, радавымі комуністамі. Комуніст, партыйны арганізатар, інструктар, сакратар камітэта — творцы і арганізатары нашай соцыялістычнай рэчаіснасці — павінны актыўна ўдзельнічаць, супрацоўнічаць у нашай большэвіцкай прэсе.

Газета — моцная зброя ў руках райкомаў і абкомаў, зброя выхавання мас. На жаль, партыйныя камітэты мала займаюцца газетамі і зусім недастаткова выкарыстоўваюць іх для ідэйнага ўзбраення комуністаў і ўзмацнення ўплыву на беспартыйныя масы.

**(Перадавы артыкул «Праўды»).**

# Рэдакцыя не заўважыла комуніста Сымана

□ □ □ „КАЛГАСНІК“ □ □ □

Орган чырвона-слабодскага РК КП(б)Б і РВК.

«Некаторыя работнікі не зразумелі сутнасці перабудовы работы партарганізацый, устаноўленай 17-м з'ездам, не зразумелі, што цэнтрам гэтай перабудовы з'яўляецца член партыі, яго ідэйнае ўзбраенне, яго палітычны рост і актыўнасць». Так сказаў т. **Кагановіч** у сваёй прамове на нарадзе загадчыкаў аддзеламі кіруючых партыйных кадраў.

Гэта прамова была надрукавана чырвона-слабодскай раённай газетай «**Калгаснік**» 10 студзеня і абавязвала газету ўзяцца за глыбокае, усебаковае асвятленне работы пярвічных партыйных арганізацый, парторгаў і асобных комуністаў.

Мы праглядзелі камплект «Калгасніка» з 1-га студзеня па 1-е красавіка і знайшлі ўсяго **чатыры** заметкі па партыйнаму будаўніцтву, калі іх можна аднесці да гэтага аддзела.

Праглядаючы «Калгаснік», ствараецца ўражанне, як быццам у раёне няма партыйнай арганізацыі. На справе-ж у тым, што Чырвона-слабодскі раён ужо некалькі гадоў з'яўляецца перадавым раёнам у БССР амаль па ўсіх галінах работы, у першую чаргу заслуга партыйнай арганізацыі, рэзультат самаадданай работы комуністаў.

Член партыі т. **Сыман** Сямён, у_былым батрак, пасылаецца ў калгас «12-годдзе Октября» Семежаўскага сельсовета. За кароткі тэрмін работы ён выводзіць калгас у перадавыя. Дабіўся ён гэтага таму, што вельмі ўдала спалучыў работу старшыні калгаса з работай партыйнага арганізатара. Тав. Сыман у індывідуальных і групавых гутарках растлумачвае калгаснікам усе рашэнні партыі і ўрада. Пад яго кіраўніцтвам у калгасе выходзіць добрая насценгазета, у якую ён сам піша і на заметкі якой рэагуе.

Тав. Сыман вельмі добры масавік. Ён арганізуе і праводзіць спаборніцтва калгаснікаў, ведае, чаго патрабуе кожны калгаснік.

Тав. Сыман многа працуе над узняццем свайго палітычнага і культурнага ўзроўню, вывучае агразоатэхніку. Не дарма гэты аддзаны партыі і сваёй справе комуніст быў дэлегатам другога ўсесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў і меў шчасце гаварыць з т. **Сталіным.** Не дарма ён выбран членам ЦВК БССР.

Але дарэмна вы будзеце шукаць аб яго рабоце, **як парторга, як члена партыі,** на старонках «Калгасніка». Каштоўны вопыт яго работы не перадан другім парторгам.

Праўда, нельга сказаць, што газета нічога не пісала пра тав. Сымана. Некалькі заметак было змешчана: «Сыман паехаў на ўсесаюзны з'езд калгаснікаў-ударнікаў», «Вырашаў я дзяржаўныя справы» і, нарэшце, 14 сакавіка даецца амаль на ўсю старонку «Расказ Сымана аб сваёй сустрэчы з т. Сталіным». Не будзем гаварыць аб нізкай якасці гэтых матэрыялаў, асабліва апошняга. Хіба можна так блытаць, як у карэспандэнцыі «Вырашаў я дзяржаўныя справы», дзе гаворыцца, што тав. Сталін прапанаваў устанавіць размер прысядзібнага ўчастка ў 0,25—0,30 га, а ў карэспандэнцыі «Расказ Сымана аб сваёй сустрэчы з т. Сталіным» прыводзіцца ўжо лічба 0,25—0,50 га? Апошняя карэспандэнцыя ва многіх мясцах грэшыць агіднымі фармулёўкамі.

Нельга не адзначыць таго, што ні ў

адной карэспандэнцыі няма ні слова аб **Сымане—комунісце, аб Сымане—парторгу.**

Вось стыль заметкі «Сыман паехаў на ўсесаюзны з'езд калгаснікаў-ударнікаў». Замест таго, каб паказаць, як на аснове разгортвання партыйна-масавай работы т. Сыман вывеў калгас у перадавыя, як калгаснікі дабіліся атрымання на працадзень 4 кіло зерневых і 14 кіло бульбы, фіксуецца, што

**«Калгас ужо поўнасцю здаў мяса дзяржаве за 1 квартал 1935 г. Малака за студзень месяц калгас таксама здаў з перавыкананнем плана...**

**...Калгас па-баявому ўзяўся за выкананне плана 1 квартала 1935 г. (па лесавывазках і лесазагатоўках—РЭД.). Добра калгас падрыхтаваўся і да веснавой сяўбы».**

І далей у гэтым родзе.

Іменна на матэрыялах «Калгасніка» можна ярка праілюстраваць словы перадавога артыкула «Праўды» «Лепш асвятляць партыйнае жыццё», што

**«Частка прэсы—раённай, абласной і нават цэнтральнай—не ўмее адлічыць і выдзеліць унутры-партыйную работу —арганізацыйную, масавую, палітычную, выхаванне комуністаў—ад гаспадарчай дзейнасці»,**

што:

**«Упрашчэнства, шаблон—другі недахоп у пастаноўцы пытанняў партыйнага будаўніцтва на старонках друка».**

10 сакавіка змяшчаецца падборка пад шматабавязваючым загалоўкам «Партыйнае будаўніцтва». Пад ім—2 заметкі. «Забыты ўчастак партыйнай работы» —так называецца адна з заметак. Чаго толькі не наляпілі ў гэтай 120-радковай заметцы. Тут і аб нявыхадзе насценгазеты, і аб дрэнным доглядзе коней, і аб рамонце інвентару і машын, і аб насенні, і аб культурна-масавай рабоце і т. д. Усяго ёсць патроху. Няма толькі матэрыялаў аб рабоце пярвічнай партыйнай арганізацыі калгаса, аб рабоце асобных комуністаў.

Памянёная заметка пачалася з указання на тое, што «на партыйна-комсамольскім сходзе калгаса «Дук» парторг **Пабудзей** трымаў гарачую прамову». Газета павінна была замест непатрэбнага нагрмаджэння фактаў аб становішчы калгаса паказаць, як падрыхтоўваўся партыйны сход, якія былі пастаўлены пытанні на ім, якая была актыўнасць комуністаў і т. д. Але нічога гэтага не было зроблена, бо рэдакцыя не зразумела сутнасці перабудовы работы партарганізацыі.

Была ў «Калгасніку» змешчана карэспандэнцыя пад загалоўкам «Парторг Васілеўскі ігнаруе культурна-масавую работу».

**«Нельга дапушчаць, каб перадавы калгас у гаспадарчых адносінах, — чытаем мы ў ёй,—быў самым адстаючым у культурных адносінах. А такім зараз і з'яўляецца калгас імя Дзяржынскага».**

А некалькімі радкамі ніжэй напісана ў гэтай-жа карэспандэнцыі, што калгас:

**«Да веснавой сяўбы таксама не арганізаваў большэвіцкай падрыхтоўкі».**

Які-ж гэта перадавы калгас, калі ён да «веснавой сяўбы не арганізаваў большэвіцкай падрыхтоўкі?» — у праве запытаць чытач сваю раённую газету.

Газета зусім не займаецца якасцю партыйнай асветы. А на гэтым участку не ўсё абстаіць добра. Марксісцка-ленінскім гуртком у м. Чырвоная Слабада кіраваў Свердлін. Ён блытаў, даваў няправільныя фармулёўкі. Потым выявілася, што гэта не выпадкова: ён быў выкрыт, як не раззброіўшыйся трацкіст, і выключан з партыі.

Газета пра Свердліна дала заметку толькі тады, калі яго выкрылі, як трацкіста. А яе-ж прамы абавязак змагацца за глыбокую і правільную прапаганду марксізма-ленінізма, за глыбокае вывучэнне гісторыі партыі. Яе абавязак быў выявіць скажэнні, якія рабіў трацкіст Свердлін.

***

Рэдакцыя «Калгасніка» павінна знайсці ў кампдекце сваёй жа газеты нумар за 10 студзеня і ўважліва прапрацаваць прамову т. Кагановіча, асабліва ў тым месцы, дзе ён гаворыць аб сутнасці перабудовы партыйнай работы. Таксама трэба прапрацаваць шматлікія артыку-

ыі «Праўды» аб задачах партыйнага будаўніцтва, аб задачах у гэтай галіне друку. І, усвоіўшы сутнасць перабудовы партыйнай работы, шырока асвятляць ідэалагічнае выхаванне комуністаў, работу са спачуваючымі, работу парторгаў, пярвічных партарганізацый. Шырока паказаць работу асобных комуністаў, ад якіх залежаць поспехі ўсіх мерапрыемстваў партыі і ўрада.

Словам, трэба шырока паказаць работу партыйнай арганізацыі раёна, чым фактычна да гэтага часу не займалася рэдакцыя газеты «Калгаснік».

# Адзін раз у тры месяцы

□ □ □ „ЧЫРВОНЫ ОКЦЯБР“ □ □ □

**Орган парткома і фабкома фабрыкі «Х Окцябр», Рэчыца.**

Парторг аўтаматнага цэха запалкавай фабрыкі **«Х Окцябр»** тав. Папоў мае пядрэнны вопыт разгортвання партыйна-масавай работы. Тав. Папоў рашыў падзяліцца гэтым вопытам з астатнімі парторгамі. І вось у нумары заводскай шматтыражкі **«Чырвоны Окцябр»** ад 28 сакавіка з'яўляецца артыкул т. Папова: **«Як я працую ў партгрупе».** Над артыкулам пад тонкай лінейкай дана «шапка» **«Абмяняемся вопытам партыйнай работы ў групе, цэху».**

Артыкул перадае станоўчы вопыт работы парторга з спачуваючымі, вопыт падрыхтоўкі і правядзення партыйных сходаў.

Да партдня ў цэху пачынаюць рыхтавацца за 8—10 дзён: вывешваюцца аб'явы з парадкам дня партсхода, рэкамендацыйны спіс матэрыялаў па пытаннях, як'я будуць абмяркоўвацца на сходзе, кожны член партгрупы атрымлівае ад парторга адпаведны матэрыял.

Тав. Папоў расказвае, як ён падрыхтаваў партыйны сход па прапрацоўцы пастановы ЦК КП(б)Б аб рабоце са спачуваючымі:

> **«За 10 дзён да гэтага партдня былі вывешаны аб'явы. Кожны прымацаваны член партыі (да кожнага спачуваючага прымацован член партыі, які дапамагае спачуваючаму ўзняць свой палітычны ўзровень. Рэд. «Б. Д.») прапрацаваў з спачуваючымі пастанову ЦК КП(б)Б аб рабоце з спачуваючымі. Была склікана нарада спачуваючых сумесна з членамі і кандыдатамі партыі».**

Як бачыце, досыць канкрэтна перадаецца ў артыкуле вопыт работы парторга тав. Папова.

І ўсё-ж трэба сказаць, што шматтыражка «Чырвоны Окцябр» не зусім сур'ёзна падышла да паказу партыйна-масавай работы. Аб гэтым выразна гавораць хоць-бы першыя радкі артыкула т. Папова.

Артыкул пачынаецца так:

> **«Наша партыйная група аўтаматычнага цэха складаецца з сямі членаў партыі, двух кандыдатаў і 8 спачуваючых».**

З якіх гэта часоў спачуваючыя з'яўляюцца членамі партгрупы? Рэдакцыя газеты не ведае, мусіць, што партыйныя групы складаюцца толькі з членаў і кандыдатаў партыі.

Залічваць спачуваючых у склад партгрупы, значыць не ведаць асноў партыйнага статута, зацверджанага XVII з'ездам ВКП(б).

Гэта першае.

Чытаем далей:

> **«Я практыкую індывідуальныя даклады партыйцаў аб іх рабоце. Гэта стымулюе таму, што кожны член партыі ў групе нясе поўную адказнасць за пастаноўку партмасавай работы ў цэху».**

Кожны комуніст павінен выконваць канкрэтную партыйную работу. А па газеце выходзіць, што кожны комуніст поўнасцю адказвае за становішча ўсёй партмасавай работы ў цэху. І па-

рэпцце, такі абзац у артыкуле тав. Папова:

**«Партыйная група актыўна ўключылася ў паход за авуладанне мастацкай літаратурай. На партыйным дні, прысвечаным прапрацоўцы мастацкай літаратуры, парттрупай была прачытана кніга «Чапаеў», пасля чаго арганізаваны прагляд кіно-карціны «Чапаеў».**

Кніга «Чапаеў» мае каля двухсот старонак. Такую кнігу прачытаць на адным партыйным сходзе немагчыма. Узнікае сумненне, што выконваючы абавязкі рэдактара «Чырвонага Окцябра» **т. Якуш** у вочы не бачыў гэтай кнігі. Інакш гэты абзац не так выглядаў-бы ў газеце.

Выступіўшы ў першы раз з паказам партыйнай работы, рэдакцыя «Чырвонага Окцябра» падышла да гэтага паказу несур'ёзна. Мы падкрэсліваем **у першы раз**, бо мы прагледзелі камплект газеты «Чырвоны Окцябр» за апошнія тры месяцы і не знайшлі ніводнага матэрыялу аб партыйным жыцці на фабрыцы, у цэху, у брыгадзе. Рэдакцыя «Чырвонага Окцябра» не займаецца партыйнымі пытаннямі, не ведае партыйнага жыцця на фабрыцы.

Пленум Ленінградскага горкома ВКП(б) і пленум ЦК КП(б)Б, якія нядаўна закончыўся, вельмі востра паставілі пытанні арганізацыйна-партыйнай і палітыка-выхаваўчай работы ў партыйных арганізацыях.

Наш друк абавязан дапамагчы партыйным арганізацыям паставіць гэту работу, узняць арганізацыйна-партыйную работу на ўзровень палітычных задач.

«Праўда» ў сваім перадавым артыкуле «Лепш асвятляць партыйнае жыццё» пісала:

**«Частка прэсы раённай, абласной і нават цэнтральнай не ўмее адрозніваць і выдзяляць унутрыпартыйную работу —арганізацыйную, масавую, палітычную, выхаванне комуністаў — ад гаспадарчай дзейнасці, якая ў кожным горадзе, заводзе, калгасе, натуральна ўзначальваецца партыяй.**

**Газеты падражаюць тым партыйным камітэтам, якія забыўшы арганізацыйна-партыйныя і выхаваўчыя свае задачы, усю ўвагу канцэнтруюць на справах гаспадарчых».**

Гэта поўнасцю адносіцца і да ўсяго фабрычна-заводскага друку.

Задача заключаецца ў тым, каб зрабіць належныя вывады з пастаноў пленума Ленінградскага гаркома ВКП(б) і ЦК КП(б)Б. Паставіць работу ў газеце так, каб партыйныя пытанні занялі ганаровае месца на старонках газеты, каб сістэматычна, з нумара ў нумар паказваць работу парторгаў, паасобных комуністаў, перадаваць лепшы вопыт партыйнай работы, марксісцка-ленінскай вучобы, асабліва вывучэння гісторыі нашай партыі, дапамагаць у падрыхтоўцы да партыйных сходаў, словам шырока асвятляць партыйнае жыццё, партыйную работу на прадпрыемстве.

Газета толькі тады здолее справіцца з гэтымі задачамі, калі рэдакцыя

**«па-сапраўднаму займецца гэтай справай, цесна звяжацца з нізавымі партыйнымі арганізацыямі, партыйным актывам, радавымі комуністамі. Комуніст, партыйны арганізатар, інструктар, сакратар камітэта — творцы і арганізатары нашай соцыялістычнай рэчаіснасці —павінны прымаць актыўны ўдзел, супрацоўнічаць у нашай большэвіцкай прэсе»**

**(«ПРАВДА»).**

Гэта трэба ўлічыць рэдакцыі газеты «Чырвоны Окцябр» і па-сапраўднаму, сур'ёзна павярнуцца да шырокага і глыбокага асвятлення партыйнага жыцця.

# Ці чыталі ў рэдакцыі статут?

   **„ШЛЯХ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ"**   

**Орган Смалявіцкага РК КП(б)Б і РВК**

Перш за ўсё дзве даведкі.

Даведка першая. Аб рабоце II усесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў смалявіцкая райгазета пісала толькі два разы: 15-га сакавіка яна змясціла інфармацыю **Белта** аб адкрыцці з'езда і 19 сакавіка перадрукавала перадавы артыкул **«Праўды»** — «Непераможна наша радзіма».

Аб тым, што з'езд прыняў новы Прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі, статут, распрацаваны пры актыўным удзеле і непасрэдным кіраўніцтве тав.

**СТАЛІНА**, **«Шлях калектывізацыі»** не павядаміў сваім чытачам да 25 лютага, хоць за гэтыя дні вышлі 4 нумары газеты.

Даведка другая. **«Звязда»** надрукавала Прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі, прыняты II усесаюзным з'ездам калгаснікаў-ударнікаў, **18 лютага**. «Шлях калектывізацыі» не надрукаваў статута ні 20-га, ні 23, ні 25, ні 28 лютага. Статут у газеце надрукован не быў і ў сакавіку. «Шлях калектывізацыі» не даў ні ў лютым, ні ў першай палове сакавіка ні аднаго артыкула аб сталінскім статуце сельскагаспадарчай арцелі, не перадрукаваў нават ні аднаго артыкула з **«Праўды»**.

Гэтых двух даведак зусім даволі для таго, каб упэўніцца, што рэдактар «маляўнічай газеты тав. **Старасценка** не зразумеў найвялікшага значэння сталінскага статута калгаснага жыцця.

Хоць і праз галаву сваёй раённай газеты, але ўсё-ж шырокія масы калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў раёна даведаліся пра новы калгасны статут.

З рук у рукі пераходзіў кожны экземпляр «Праўды», «Звязды», «Крестьянской газеты», «Калгасніка Беларусі» і інш. газет, дзе быў надрукован Прыкладны статут. Статут абмяркоўваўся ў кожнай хаце, кожнай калгаснай брыгадзе. Усё гэта праходзіла міма раённай газеты. Да 15 сакавіка «Шлях калектывізацыі» ні разу не паказаў, як ідзе прапрацоўка статута ў калгасах раёна, калі не лічыць 2—3 інфармацыйных заметак з аднакай «калгаснікі горача адабраюць новы статут».

Нарэшце, 15 сакавіка «Шлях калектывізацыі» выступае з перадавым «За дэталёвую прапрацоўку статута». Перш за ўсё газета ставіць задачу перад усёй партарганізацыяй, кожным камуністам у паасобку:

> «прыняць у прапрацоўцы статута актыўны ўдзел, аказваючы дзелавую, арганізацыйную і практычную дапамогу калгасам».

Не толькі актыўны ўдзел абавязаны прыняць камуністы ў прапрацоўцы статута, а ўзначаліць, кіраваць прапрацоўкай, тав. Старасценка. Гэта істотная розніца. І іменна так павінна была паставіць пытанне газета.

Далей «Шлях калектывізацыі» канстатуе, што большасць сельсаветаў падыйшла да арганізацыі прапрацоўкі статута фармальна, павярхоўна. Крытыкуючы дакладную запіску старшыні Жодзінскага сельсовета тав. **Сурбы**, які напісаў: «Статут адобрылі ў цэлым, задаволены размерам сядзіб і дробнай жывёлы», газета ў сваім перадавым артыкуле пытае:

> «Ці-ж толькі гэта цікавіць калгаснікаў, т. Сурба? А якім парадкам вы будзеце надзяляць сядзібамі калгаснікаў, якія іх не маюць, з якіх фондаў? Хіба не цікавіць калгаснікаў вылучэнне коней для абслугоўвання іх патрэб. А хоць-бы такое пытанне, як аплата за водпуск цяжарнай калгасніцы, з якога разліку.

А хіба не цікавіць калгаснікаў пытанне аб правільнай арганізацыі і аплаце працы ў калгасе, аб мерах павышэння ўраджайнасці калгасных палёў, аб сроках арцелі, аб дзейнасці праўлення? Гэтае пытанне мы ў праве задаць рэдакцыі газеты. Чаму-ж у **першым** перадавым артыкуле аб новым калгасным статуце абыйдзены гэтыя **асноўныя**, важнейшыя пункты статута?

У гэтым-жа нумары «Шляха калектывізацыі» змешчан матэрыял, прэтэндуючы на разгорнуты паказ прапрацоўкі статута ў калгасе «Абуджэнне». Мы падкрэсліваем **прэтэндуючы**, бо ніякага паказу ў артыкуле «Якім павінен быць наш статут» няма. Многа гаварылі ў калгасе аб прысядзібных участках і, як піша газета:

> «Усе прышлі да адной думкі: прысядзібныя ўчасткі калгаснікам у калгасе «Абуджэнне» павінны быць сярэднія ў параўнанні з сядзібамі, якія маюцца зараз».

Даволі «туманная» ўстаноўка, трэба сказаць. Які размер прысядзібных участкаў у калгасе зараз? Які-ж будзе сярэдні размер прысядзібнага ўчастка: можа гэта выйдзе толькі 0,10—0,15 гектара, а можа і 0,50—0,60 гектара?

Не больш гаворыць і такое месца артыкула:

> «Далей пачалася распрацоўка трэцяга раздзела. Тут калгаснікі гаварылі, якой павінна быць аплата за коней, калі калгаснікі будуць на калгасных конях ездзіць на кірмаш, вяселлі і т. д.».

І ўсё.

Што дасць калгаснікам—чытачам газеты такі «паказ»? Ці дапаможа ён ім правільна прапрацаваць статут у сваім калгасе? А іменна-ж гэту мэту — **перадачу лепшага вопыта правільнай прапрацоўкі статута, выкрыццё асобных скажэнняў** пры прапрацоўцы статута — павінна ставіць перад сабой газета, друкуючы такі матэрыял.

Прайшло яшчэ 10 дзён. За гэты час некаторыя калгасы раёна паспелі ўжо распрацаваць канчатковы статут свайго калгаса. І «Шлях калектывізацыі» рашыў паказаць статут аднаго калгаса. Справа вельмі добрая. Але паглядзім, што з гэтага выйшла.

26 сакавіка газета на двух з паловай старонках змясціла «Статут сельскагаспадарчай арцелі», прыняты агульным сходам арцелі «Колас». Перад статутам рэдакцыя дала **«Заўвагі да статута»**. Прыводзім гэтыя заўвагі поўнасцю.

**«У парадку першага вопыта мы змяшчаем статут калгаса «Колас», Варатоўскага сельсовета, і просім старшынь калгасаў, калгаснікаў, старшынь сельсоветаў і актыў праз нашу газету даць свае заўвагі і прапановы па данаму статуту.**

**Ці можна лічыць нармальным такія расцэнкі, як напрыклад: паездка ў лес за дравамі — 10 кап., паездка ў Смілавічы на млын (25 клм.)—50 кап. Ці не можа тут атрымацца так, што іншы нахал, або кум старшыні, аб якіх гаварыў тав. Якаўлеў, будзе і надалей мець поўную магчымасць ездзіць на грамадскіх конях без патрэбы, а той, хто паскромней, каня не атрымае, тым больш, што гэтыя-ж грошы, за вылікам у непадзельны капітал, звярачваюцца калгаснікам у выглядзе аплаты па працаднях.**

**Аднача́сова мы папярэджваем ад другой крайнасці, гэта ўстанаўленне празмерна высокай аплаты, што дасць козыр у рукі некаторым нахалам старшыням калгасаў, альбо брыгадзірам гаварыць калгасніку з прыжымам — плаці.**

**Мы лічым, што ў статуце выпушчана пытанне аплаты за карыстанне канём для калгаснікаў-ударнікаў. Тут мы лічым неабходным унесці наступны пункт: «па ўсматрэнню праўлення калгаса для калгаснікаў-ударнікаў за карыстанне канём для іх асабістых патрэб робіцца скідка да 50 проц.».**

**Змяшчаючы статут калгаса «Колас» рэдакцыя не друкавала аб размерах прысядзібных участкаў па гэтаму калгасу з той прычыны, што гэта пытанне яшчэ вырашаецца».**

У калгасе яўна сказілі прынцып статута аб аплаце за абслугоўванне калгаснымі конямі асабістых патрэб калгаснікаў. 10 капеек за прывозку воза дроў з лесу (магчыма, за дзесяткі кіламетраў ад калгаса). 50 капеек за паездку на млын на адлегласці ў 25 кіламетраў—гэта-ж яўнае кулацкае скажэнне статута, накіраванае на разбазарванне калгасных коней. А ў газеты не хапае смеласці з усёй бальшэвіцкай рашучасцю выкрыць гэтае скажэнне, указаць калгаснікам на іх памылку. Газета толькі ставіць на абгаварэнне калгаснікаў — ці нармальны гэтыя кулацкія расцэнкі.

Газета друкуе канчатковы статут калгаса і не ўказвае размеру прысядзібных участкаў, устаноўленых статутам, матывуючы тым, што «гэта пытанне яшчэ не вырашана». Адно з двух. Або ў статуце калгаса не вызначаны размеры прысядзібнага ўчастка, тады які-ж гэта канчатковы статут? Або рэдакцыя газеты не можа рашыць—правільна, ці няправільна падыйшлі ў калгасе «Колас» да вызначэння размераў прысядзібнага ўчастка, і каб не нарабіць памылак, дыпламатычна выкрэсліла лічбу, пакінуўшы гэта месца статута ў такім выглядзе:

**«размеры прысядзібнай зямлі, якая знаходзіцца ў асабістым карыстанні калгаснага двара (не лічачы зямлі пад жыллёвымі пабудовамі) — устанавіць у ...... га».**

Ніякіх водклікаў на гэты статут рэдакцыя, зразумела, не атрымала. Ні адзін старшыня калгаса, брыгадзір, радавы калгаснік не напісаў у рэдакцыю сваю думку па закранутых у рэдакцыйных заўвагах да статута пытаннях. Прынамсі, на старонках газеты ні адзін водклік надрукаван не быў. Пасля гэтага газета змясціла яшчэ некалькі матэрыялаў аб распрацоўцы статута ў калгасах раёна, але ні разу не вярнулася да статута калгаса «Колас».

«Шлях калектывізацыі» зусім адрывае прапрацоўку статута ў калгасах ра-

ёна ад практычнай работы па падрыхтоўцы да сяўбы. Ні ў адным з матэрыялаў аб ходзе падрыхтоўкі да сяўбы, аб спаборніцтве брыгадзіраў вы не толькі нічога не знойдзеце аб тым, як у практычнай рабоце калгаса ажыццяўляецца новы статут, але амаль не сустрэнеце нават і слоў — новы статут.

Характэрна тое, што нават у надрукаваным у газеце матэрыяле «Быць перадавымі ў ордэнаноснай рэспубліцы» няма ні слова аб статуце. А гэты-ж матэрыял, які займае амаль поўныя тры калонкі, перадае гутарку сакратара РК т. **Кудмана** і загадчыка сельгасаддзела РК т. **Кірэева** з выпускнікамі курсаў — 18 старшынямі калгасаў і брыгадзірамі. Тав. Кудман і Кірэеў гаварылі-ж з старшынямі і брыгадзірамі аб задачах калгасаў, аб правядзенні веснавой сяўбы. Няўжо-ж яны ні слова не абмовіліся аб тым, як трэба працаваць на аснове новага статута, як трэба практычна ажыццяўляць кожны пункт статута ва ўсёй рабоце калгаса? А можа ў гэтым вінават т. **Ул. Мініч,** які пісаў гэты матэрыял?

Як-бы ні абстаяла справа, ясна адно, што рэдакцыя газеты «Шлях калектывізацыі» не зразумела да гэтага часу, як газета павінна прапагандаваць сталінскі статут калгаснага жыцця, як яна павінна дапамагаць калгасам раёна перайсці на новы статут, правесці веснавую сяўбу на аснове новага статута.

# „Врачу, исцелися сам"

## □ □ □ КАЛЕКТЫВІСТ РАСОНШЧЫНЫ □ □ □

У рэдакцыі **«Віцебскага пролетарыя»** разбіралі ранішнюю пошту. Сярод кіпы раённых газет, якія рэдакцыя атрымлівае ў парадку абмену, быў і свежы нумар расонскай газеты за 18-е сакавіка.

Пры першым-жа беглым праглядзе гэтага нумара кідалася ў вочы надзвычайная колькасць грубейшых граматычных і стылістычных памылак. Работнікі «Віцебскага пролетарыя» пачалі наводзіць на гэты нумар карэктуру. І ў першых-жа 15 радках паведамлення БЕЛТА аб узнагароджанні БССР ордэнам Леніна налічылі 21 памылку. У адным толькі слове **«прэзідыум»** расонскія газетчыкі ўмудрыліся зрабіць... 4 памылкі.

143 памылкі толькі на адной невялічкай паласе газеты! Больш карэктаваць у работнікаў віцебскай газеты не хапіла цярпення. Яны пераслалі гэты нумар **«Калектывіста Расоншчыны»** ў **«Большэвіцкі друк».**

Набярэмся цярпення і прадоўжым работу, пачатую ў рэдакцыі «Віцебскага пролетарыя». Пачнем ужо не з арыгінальных матэрыялаў, а з перадруку.

2 падвалы 2-й і 3-й паласы гэтага нумара «Калектывіста Расоншчыны» займае перадавы артыкул **«Праўды»:** «Глыбей вывучаць гісторыю партыі». Здзіўляе безадказнасць, з якою аднеслася рэдакцыя расонскай газеты да гэтага найважнейшага артыкула. Прывядзем толькі некалькі прыкладаў з той безлічы памылак і апячатак, якія дапушчаны пры перадруку перадавога **«Праўды»:** «Соцыялістычная радзіма», «аргаізацыі», «безоаетнасці» (папрабуйце здагадацца, што азначае гэты набор літар), «трацкісіты», «маркэізм», «лявацкія», «марксісіцкаленінскае», «ворарагаў», «злачынынным»; прыклады поўнага ігнаравання знакаў прыпынку, у выніку чаго з'яўляюцца такія сказы, як «правыхапартуністаў «левакоў», як «соцыялістычнай індустрыялізацыі колекктывізацыі» і т. д. і т. д.

Такая-ж гісторыя паўтарылася і пры перадруку артыкула т. **Гікало** «Большэвікі Беларусі ў барацьбе за соцыялізм» (нумар ад 29-га сакавіка). Дзесяткі грубых памылак зрабіла рэдакцыя «Калектывіста Расоншчыны» пры перадруку артыкула т. Гікало. Больш таго, рэдакцыя газеты так умудрылася расставіць дужкі ў прыведзенай у артыкуле цытаце з выступлення т. **Сталіна,** што атрымалася скажэнне слоў т. **Сталіна.**

Рука рэдактара газеты (не гаворачы ўжо аб карэктары) не дакранулася да гранак артыкула т. **Гікало** і перадавога **«Праўды».** Набор пашоў на машыну ў такім выглядзе, у якім ён вышаў з рук ма-

лаграматнага наборшчыка. А пярвейшым-жа абавязкам работнікаў газеты было зверыць гранкі з **«Звяздой»** з якой перадрукоўваліся гэтыя артыкулы.

Рэдактар расонскай газеты т. **Гурчонак** не разумее, што на мове газеты вучацца тысячы калгаснікаў, што калі газета піша «шавінізам», «соцаялізам», «інтэрвенаты», «Гарманія», «ашукаваўшая», «зыпатання», «бютжэт», «літыратура», «мобсродак» і т.д., то так будуць гаварыць сотні малаграматных чытачоў газеты, а найбольш граматныя чытачы проста смяяцца будуць з такой газеты. Рэдактар расонскай газеты не разумее таго, што нятраматная газета не можа мець ніякага аўтарытэту ў сваіх чытачоў, што яе матэрыялы не могуць мець ніякага ўплыву.

І сапраўды, хіба можа мець хоць які-небудзь уплыў падборка ў тым-жа нумары расонскай газеты за 18-е сакавіка: «Соцкультура раёна на службу пасеўнай». Калі матэрыялы гэтай падборкі стракацяць такімі словамі як «култьработу», «шэўствуячая», «рабачкбмэ», «камсалоьская» і т. д. Калі газета піша так:

**«Праверылі камсамольцаў, як яны трымаюць культуру сваіх рук...**

**...Рэгулярна абразаць пазнокці рук пальцаў. Чысціць зубы і шэраг іншых прапаноў».**

— «Врачу, исцелися сам»,—могуць адказаць рэдакцыі чытачы газеты,—перш чым гаварыць аб культуры ў калгасах, зрабіце культурнай самую газету.

А навесці культуру на старонкі расонскай газеты, **пасадзіць у рэдакцыю талковага граматнага карэктара, азнаёміць хоць-бы з элементарнымі правіламі граматыкі, беларускага правапіса ўсіх работнікаў газеты, у тым ліку і самога рэдактара т. Гурчонка, патрэбна як можна хутчэй.**

## ІНСТРУКТАРЫ ЖУРНАЛА НА МЯСЦАХ

□ □ □

**М. САКАЛОЎСКІ**

# ЯК КРЫЧАЎСКІ РАЙКОМ КП(б)Б КІРУЕ СВАЁЙ ГАЗЕТАЙ

18 студзеня ў крычаўскай раённай газеце **«Соцыялістычны шлях»** была змешчана карэспандэнцыя пад загалоўкам «Ланцуг злачынстваў і шкодніцтва». У гэтай карэспандэнцыі старшыня калгаса «Свабода», Касцюшкаўскага сельсовета тав. **Казлоўскі** абвінавачваўся ў гаенні і цкаванні селькора, загадчыка СТКФ гэтага калгаса **Грыгор'ева,** у безгаспадарчасці і ў радзе іншых злачынстваў.

Як толькі быў змешчан гэты артыкул палітаддзел МТС і РК КП(б)Б вылучылі камісію для расследвання карэспандэнцыі, а ў хуткім часе бюро РК КП(б)Б прыняло пастанову па рэзультатах расследвання. Пастанова па сутнасці цалкам абвяргала матэрыял газеты, апраўдвала тав. Казлоўскага і ўсю віну за дрэнную работу фермы ўсклала на Грыгор'ева. Пастанова, па настаянню намесніка сакратара РК тав. **Гінзбурга,** які займаўся ўсёй гэтай справай, была надрукавана ў «Соцыялістычным шляху» 1 сакавіка.

Пасля апублікавання гэтай пастановы ў **«Звязду»** і журнал **«Большэвіцкі друк»** сталі наступаць сігналы аб няправільнасці рашэння бюро РК КП(б)Б. І вось што выявілася ў рэзультаце расследвання гэтых сігналаў.

У пастанове райкома падкрэсліваецца, што матэрыял, змешчаны ў газеце, не праверан, што газета стала на шлях дыскрэдытацыі Казлоўскага — члена партыі з 1919 года, шальмавання лепшых калгасніц-ударніц, на шлях прамой абароны загадчыка фермы Грыгор'ева, аддаплага пад суд за безгаспадарчасць і злоўжыванні. Усё-ж, што пісала газета аб Казлоўскім, райком звёў толькі да асобных недахопаў у яго рабоце.

Ці правільна ўсё гэта?

Правільна тое, што ў артыкуле ёсць рад недакладнасцей, неўгрунтаваных фактаў і нават грубейшых памылак. Так, у артыкуле член праўлення калгаса — былая бяднячка Далецкая Арына фігуравала як буйная кулачка. Артыкул-жа «Ланцуг злачынстваў і шкодніцтва» пісаў работнік рэдакцыі **Альтшулер.** У канцы артыкула была змешчана вялікая заўвага рэдакцыі. Такім чынам гэты артыкул фактычна быў рэдакцыйным і тым больш патрабаваў перад змяшчэннем дасканалай праверкі фактаў. А гэтага не было зроблена.

Газета зрабіла буйнейшую памылку, узяўшы пад сваю прамую абарону Грыгор'ева, замазваючы злачынствы, зробленыя ім за час работы загадчыкам фермы. Грыгор'еў сапраўды лічыўся селькорам раённай газеты з восені мінулага года. Але ці трэба было абараняць Грыгор'ева, калі ён чадбайна адносіўся да сваёй работы, калі ён падробіў грашовую ведамасць (замест 16 руб., атрыманых ад калгаснікаў за прададзеных парасят, ставіў 10 руб.), калі ён растраціў звыш 200 руб. калгасных грошай? А «Соцыялістычны шлях» звёў усё гэта к «асобным недахопам у рабоце Грыгор'ева». Гэтым **рэдакцыя праявіла прамое неразуменне, каго трэба лічыць селькорам, каго трэба абараняць, як селькора.**

Але ў пераважнай сваёй большасці факты, прыведзеныя ў артыкуле «Ланцуг злачынстваў і шкодніцтва», **правільныя.** І на самой справе. Хіба не віпават старшыня калгаса ў тым, што вельмі дрэнна працуе ферма? А справы на ферме ўжо даўно дрэнныя. Вясною мінулага года загадчыкам фермы быў **Чыж** Макар. Пры ім быў вялікі адыход свіней. Калі Чыж здаваў ферму, не хапала 15 свіней. Пасля Чыжа загадваў фермай Курачкін. Ён разбазарваў свінос пагалоўе. Ні Чыж, ні Курачкін не былі адданы пад суд. Справы на ферме не палепшыліся і пры Грыгор'еве. Праўда, Грыгор'еў аддан пад суд, зняг з работы на ферме.

Але справы не палепшыліся і зараз. На ферме масавы адыход свіней. Так, у першай палове сакавіка загінула 9 свіней, прырэзана — 12; 13 парасят з-за недагляду замёрзла, 2-е парасят зацёрта і т. д. Усё гэта — рэзультат злачыннай безгаспадарчасці на свінаферме. Тут няма ізалятара для хворых свіней. Хворыя свінні ходзяць па ўсяму свінарніку. Іх прыносяць нават на кухню. Каля свінарніка валяецца розная падаль, праз якую распаўсюджваецца зараза. Як правільна пісала газета «Соцыялістычны шлях», нельга было прызначаць загадчыцай фермы **Міхневіч** Клаўдзію, якую судзілі за дрэнныя адносіны да коней, якая паходзіць з кулацкай сям'і.

Ці павінен несці адказнасць за гэтыя агіднасці старшыня калгаса тав. Казлоўскі? Зразумела, павінен.

Ён павінен несці адказнасць таксама і за непадрыхтаванасць калгаса да веснавой сяўбы (не па ўсіх культурах засыпаны насенныя фонды, ужо цяпер няма сена) і за дапушчэнне раскрадання калгаснай маемасці.

Хіба гэта не злачынства, калі ў калгасе не складаліся акты на заколатую і прырэзаную жывёлу (асабліва на авечак), калі пры малацьбе не было дасканалага ўліку намалочанага хлеба, калі ў ныніку заблытанага ўліку яшчэ і зараз не скончана размеркаванне ўраджаю.

Нядаўна рэвізійная камісія выкрыла, што кладаўшчык **Аляхновіч** раскрадваў калгасную маемасць, не запрыходаваў 1.534 кіло аўса, 1.210 кіло ячменю, 244 кіло грэчкі, 41 кіло мяса. Пры вобыску ў яго на кватэры было знойдзена 16 кіло калгасных канапель, тры пуды ільносемя, тры кіло воўны і іншыя рэчы. Цікава, што пасля вобыску ўсё гэта было аддана на захаванне... таму-ж Аляхновічу, якога не адразу адхілілі ад работы і які зноў перацягнуў усё гэта з кладовай да сябе.

Так што «Соцыялістычны шлях» правільна рабіў, калі і ў гэтай карэспандэнцыі, і раней пісаў аб тым, што злачынца Аляхновіч знаходзіцца пад крылкам тав. Казлоўскага.

«Соцыялістычны шлях» правільна сцвярджаў, што кіраўніцтва калгаса «Свабода» засмечана класава-варожымі элементамі. Даволі адзначыць той факт, што старшынёй рэвізійнай камісіі з'яўляецца **Ільініч** Зміцрок, якога тры разы судзілі за розныя злачынствы, у тым ліку і за тое, што ён шарваў насценгазету, якая выкрыла яго, як гультая.

Чаму-ж бюро крычаўскага РК КП(б)Б

фактычна адмаўляе гэтыя факты, змазала іх, прызнаўшы заметку няправільнай? Таму, што бюро РК КП(б)Б не зразумела сутнасці разгортвання крытыкі і самакрытыкі, не зважаючы на асобы. Тут было выпуклена толькі адно — што т. Казлоўскі член партыі з 1919 г. Тут рабілі скідку на «аб'ектыўныя» прычыны, на тое, што калгас «Свабода» «цяжкі калгас», забываючы, што для большэвікоў няма аб'ектыўных прычын, забываючы, што няма дрэнных калгасаў, а ёсць дрэнныя арганізатары. Тут не чыталі, або чыталі і не зразумелі агляду друку «Праўды»: «Самакрытыка па спіску» і «Кіруючыся табелем аб рангах».

Вось чаму пастанова бюро крычаўскага РК КП(б)Б няправільная і па форме, і па сутнасці. Няправільная таму, што, выгароджваючы тав. Казлоўскага і падкрэсліваючы, што ён член партыі з 1919 г., арыентуе рабселькораў і газету на тое, што нельга крытыкаваць работу старых членаў партыі. Гэтым самым крычаўскі райком аб'ектыўна стаў на шлях зажыму самакрытыкі.

Грубейшая памылка крычаўскага райкома павінна быць тэрмінова выпраўлена. Рашэнне РК па артыкулу «Лапцут злачынстваў і шкодніцтва» павінна быць перагледжана.

***

Заняўшыся няправільнай, неўгрунтаванай абаронай Казлоўскага, крычаўскі райком партыі не заўважыў грубейшых памылак і прарываў **ва ўсёй** рабоце сваёй газеты. Калі-б райком глыбей увайшоў у справу, у работу газеты, ён убачыў-бы, што газета невыпадкова ўзяла пад сваю абарону Грыгор'ева. Селькорам ў рэдакцыі лічыцца і калгаснік таго-ж калгаса «Свабода» **Ільлініч** Ціт, які быў асуджан за шкодніцтва ў калгасе на два гады. Гэты «селькор» падрабіў справку для свайго дзядзькі кулака, пазбаўленага права голасу, дзе ўказваў, што ён бядняк і не пазбаўлен права голасу.

Рэдакцыя мае сувязь і з памянёным ужо старшынёй рэвізійнай камісіі гэтага-ж калгаса **Ільлінічам** Змітром, які судзіўся тры разы: за раскрадванне калгаснай маемасці, за пабоі і за зрыў насеннай газеты. Вось селькораўскі актыў рэдакцыі ў калгасе «Свабода». А калгас-жа «Свабода» ўсяго 8 кіламетраў ад раённага цэнтра. Тут бывалі работнікі рэдакцыі, і толькі стратай класавай пільнасці можна тлумачыць, што рэдакцыя мае такіх «селькораў».

А хіба не аб страце рэволюцыйнай пільнасці сведчыць той факт, што ўжо доўгі час у рэдакцыі працуе нехта **Лабар**, які не мае пашпарта? Хіба не аб гэтым сведчаць факты грубых палітычных памылак, дапушчаных «Соцыялістычным шляхам»? Газета змяшчала перадавы артыкул аб хлебазакупках, які ішоў у разрэз з пастановай ЦК і СПК. Газета нядаўна надрукавала нарыс гэтага-ж самага Лабара пад загалоўкам «Вецер з «Раманавага кута», кулацкі нарыс, накіраваны супроць калгаснага будаўніцтва. Толькі выпадкова яго заўважылі ў РК КП(б)Б і знішчылі ўвесь надрукаваны тыраж газеты.

Значыць, крычаўскаму РК КП(б)Б трэба было пачаць іменна з праверкі і ўмацавання складу работнікаў сваёй газеты, умацавання кіраўніцтва рэдакцыі, бо цяперашні склад рэдакцыі газеты і яе рэдактар тав. **Жураўлёва** не забяспечваюць баявой, аператыўнай, большэвіцкай работы газеты.

З усёй гэтай справы крычаўскі райком КП(б)Б павінен зрабіць для сябе яшчэ адзін вывад, што газетай трэба кіраваць сістэматычна, аказваць ёй штодзённую практычную дапамогу.

★★★★★



**Доследы якасці абутку ў навукова-даследчым інстытуце прамысловасці БССР.**

Юр. БЕЛЬКО

# БУДНІ РАЁННАЙ ГАЗЕТЫ

1.

Спакойна цячэ час у двух невялікіх пакойчыках рэдакцыі **церахаўскай** раённай газеты **«Ударнік калгасаў»**. У адным пакойчыку—габінет рэдактара тав. **Фарберава.** Другі займаюць астатнія работнікі рэдакцыі. Іх тут нямнога: сакратар рэдакцыі комсамолец тав. **Дзем'янцоў**—ён-жа інструктар, літпраўшчык і карэктар, т. **Брагіна**—комуністка, загадчыца аддзелам пісем і машыністка. Усе трое размешчаны на плошчы не болей 12 квадратовых метраў. Тут жа стаяць шафы з рэдакцыйным скарбам, ляжаць архівы газет, скрынкі з анкетамі селькораў.

Мімаволі ўзнікае думка: дзе-ж пасадзіць і пагутарыць з селькорам, які загляне ў рэдакцыю, з калгаснікам, раённым работнікам? Але наведвальнікаў амаль не бывае ў церахаўскай рэдакцыі.

Цесната і няўтульнасць у пакоі. Але работнікі рэдакцыі і гэтыя два пакойчыкі-клетачкі лічаць граніцаю сваіх мар і магчымасцей. Не так-жа даўно, месяцы тры назад, рэдакцыя памяшчалася толькі ў адным пакойчыку. Два месяцы хадзіў тав. Фарбераў па габінетах раённых кіраўнікоў, пакуль, нарэшце, далі рэдакцыі другі пакой.

Ціха ў рэдакцыі... Зрэдку зазвініць тэлефон у габінеце рэдактара. Звоніць намеснік сакратара райкома партыі тав. **Цараў,** раіць перадрукаваць важнае рашэнне з цэнтральных газет. Начальнік міліцыі паведамляе рэдактару здарэнне, цікавае для газеты.

За сцяной тт. Дзем'янцоў і Брагіна рыхтуюць матэрыял для чарговага нумара. Цішыня парушаецца стукам машынкі. На поўгадзіны два работнікі рэдакцыі павінны спыніць работу, пакуль скончыць друкаваць машыністка.

І вось увесь нумар здан у набор. Вечарам з друкарні прыносяць адбіткі двух сярэдніх палос. Карэктуру правіць тав. Дзем'янцоў. Правіць тав. Дзем'янцоў не заўсёды ўважліва. Заўважаныя памылкі выпраўляе, а незаўважаныя... так і застаюцца. Іх заўважаць тады, калі нумар выйдзе ў свет.

Адбіткі адсылаюцца ў друкарню і на гэтым рэдакцыя спыняе свой кантроль над выхадам нумара. Уважліва прачытваць адбіткі старонак, узятых на машыну, перад тым, як пачаць друкаваць, у рэдакцыі не лічаць абавязковай справай. Калі чытаюць, а калі і не.

А бывае і так. Раздаецца тэлефонны званок у друкарні. Рэдактар просіць к тэлефону наборшчыка. Адбываецца прыблізна такая гутарка па тэлефону:

**Рэдактар** (да наборшчыка): Бяры ў рукі другую паласу.

**Наборшчык** (узяўшы адбітак): Слухаю, тав. Фарбераў!

**Рэдактар:** Там у другой калонцы справа ёсць памылка, трэба выправіць. Выкінь у дзесятым радку знізу кропку і пастаў коску. Пасля коскі пастаў малую літару. Чуеш?

**Наборшчык:** Чую. Выкінуць кропку і паставіць малую літару.

**Рэдактар:** Слухай далей...

Перадаюцца яшчэ дзве-тры папраўкі. Наборшчыку цяжка запомніць, што і дзе трэба паправіць і таму часта папраўкі, перададзеныя па тэлефону, ставяцца не туды, куды трэба. Што з гэтага атрымліваецца—ясна без каментарыяў.

Павучальна гісторыя выхаду нумара «Ударніка калгасаў» за 4 красавіка. Разварот нумара друкавалі два разы. Першы раз допусцілі памылку ў пастанове СНК БССР і ЦК КП(б)Б «Аб плане кантрактацыі прадукцыі ільну і канапель ураджаю 1935 года». Памылку заўважылі, калі разварот ужо быў надрукован. Прышлося забракаваць увесь тыраж нумара.

Памылку выправілі і пачалі друкаваць разварот нанава. Надрукавалі. Сталі чытаць і зноў знайшлі памылкі ўжо ў другіх артыкулах. У аглядзе «За здаровага калгаснага каня» надрукован сказ: «Але не толькі — гэтага яшчэ мала». Да сэнсу гэтага сказа так і нельга дабрацца. Выяснілася, што трэба было надрукаваць «Але толькі напісаць—гэтага яшчэ

мала». У гэтым сказе да таго, як разварот пачалі друкаваць, тав. Дзем'янцоў знайшоў памылку. Пазваніў па тэлефону ў друкарню, папрасіў выправіць памылку. І наборшчык «выправіў».

Пасля прабавалі высеціць, хто-ж вінават у дапушчэнні памылкі? Вінаватага так і не знайшлі, але выявілася поўная **неразбярыха і абязлічка ў карэктаванні газеты.** Пасля выхаду нумара ніяк нельга дакапацца, па чыёй віне прапушчана тая ці іншая памылка—па віне рэдакцыі, ці друкарня вінавата. Таксама нельга ўстанавіць канкрэтнага вінаватага, бо карэктуру правіць і тав. Фарбераў, і т. Дзем'янцоў, і па тэлефону «карэктуюць» газету ўсе работнікі рэдакцыі.

Гэта адна старана справы. Другая—у тым, што работнікі рэдакцыі яшчэ слаба ўладаюць беларускім правапісам і амаль зусім не працуюць над тым, каб зрабіць мову газеты жывой, яркай. Таму і з'яўляюцца ў газеце загалоўкі, падобныя да такога: «Справу шасцендруку на належную вышыню» і інш. Мова многіх заметак — сухая, канцэлярская. Рэдка ўбачыш ва «Ударніку калгасаў» нарыс, жывую зарысоўку. Усё гэта настойліва патрабуе ад работнікаў цэрахаўскай газеты значна больш вучыцца, больш працаваць над сваімі матэрыяламі, над іх стылем, больш чытаць мастацкай літаратуры і грунтоўна заняцца вывучэннем правапіса.

II.

А за вокнамі рэдакцыі—вясна. Веснавое сонца растапіла снег. Пасёлак Цэрахаўка літаральна заплыў граззю: ні прайсці, ні праехаць...

— Ці ёсць яшчэ дзе-небудзь у Беларусі такое гразкае месца, як наша Цэрахаўка?—пытаецца рэдактар тав. Фарбераў. Над адказам сапраўды трэба моцна падумаць! У раёне многа гавораць аб непралазнай гразі, аб адставанні комунальнага будаўніцтва ад патрэб раёна, які бурна развіваецца. Але толькі гавораць. Уся бяда, аказваецца, у тым, што ў Цэрахаўскім раёне няма каменняў, і іх трэба ў раён завозіць. А вось няма таго, каб скарыстаць мясцовыя магчымасці і што-небудзь рабіць для паляпшэння добрабыту раённага цэнтра.

Райвыканком выдаўна прыслаў у газету для надрукавання «абавязковую пастанову». Усім домаўласнікам прадпісвалася тэрмінова ачысціць выграбныя ямы і ўборныя. Імкненне райвыканкома, безумоўна, пахвальнае. Толькі, наколькі вядома кожнаму жыхару Цэрахаўкі, у пасёлку няма ні адной выграбной ямы, а ўборных па ўвесь раённы цэнтр толькі тры-чатыры. Далей, як высветлілі, домаўласнік у пасёлку толькі адзін — аддзел комунальнай гаспадаркі самога-ж райвыканкома. Прышлося пастанову врыху перарабіць.

Пабудавалі ў пасёлку добрае новае кіно, кіносеансы-ж бываюць адзін-два разы ў месяц. Дастаўка кіно-істужак тут нічым: праз станцыю Цэрахаўка ў дзень праходзяць шэсць паяздоў дальняга следавання.

Мыцца цэрахаўцы ездзяць у Гомель: лазні ў раёне няма. Будачка з шыльдаю «Парыкмахер Цэрахаўскага раёна» з панурым суб'ектам у брудным фартуху хутчэй зышла-б за закінуты газетны кіёск, чым за раённую парыкмахерскую.

Натуральна ўзнікае пытанне: а раённая газета, як-жа яна адносіцца да ўсяго гэтага? Работнікі рэдакцыі дапамагаюць астатнім адказным таварышам ...бездапаможна ўздыхаць і разводзіць рукамі... Пытаннямі добрабыту раённага цэнтра газета не займаецца. І вельмі шкода, для газеты ў гэтай галіне сапраўды непачаты край работы.

III.

З раніцы 1-га красавіка ў рэдакцыю пачалі збірацца рэдактары калгасных шасцензгазет: павінен адбыцца раённы семінар рэдактароў. Пасадзіць рэдактароў няма дзе. **Ніхто з работнікаў рэдакцыі нават не думае аб тым, каб пагутарыць з рэдактарамі, распытаць іх аб рабоце.** Адны прыходзяць, другія выходзяць, многія разышліся па пасёлку.

Нарэшце, рэдактароў просяць ісці ў партгабінет і там чакаць пачатку семінара. Праз поўгадзіны частка рэдактароў зноў з'яўляецца ў рэдакцыі. Таварышы скардзяцца, што загадчык партгабінета т. **Тарасаў** ні за што не хоча пускаць іх у партгабінет. Ён заявіў, што «партгабінет гэта не праходны двор і абслугоўвае ён толькі комуністаў». Хвілін 20 цягнуцца тэлефонныя перагаворы рэ-

дактара з намеснікам сакратара райкома і загадчыкам парттабінета. Урэшце, пытанне ўладжана, рэдактарам дазволена зайсці ў парттабінет. Ужо 3 гадзіны дня (назначалі семінар на 10 гадзін раніцы) і некаторыя рэдактары з далёкіх калгасаў паехалі дахаты. Так, з-за неарганізаванасці і расхлябанасці ў рэдакцыі рэдактары насценных газет, прыехаўшыя на семінар, марна патрацілі 6 гадзін, не гаворачы ўжо аб тых рэдактарах, якія паехалі, не дачакаўшыся пачатку заняткаў. Хіба так раённая газета павінна выхоўваць у работнікаў нізавога калгаснага друку пачуццё адказнасці, арганізаванасці і дысцыпліны ў рабоце?

Семінар адкрываецца пры наяўнасці 12 рэдактароў. Прапрацоўваецца чатвертае заданне завочных курсаў «Крестьянской газеты» — брашура Б. Рэзнікава «Калгасныя насценгазеты на веснавой сяўбе». Брашура добрая, дае многа канкрэтных указанняў рэдкалегіям, і рэдактары насценгазет слухаюць яе да канца з напружанай увагай. Часта рэдактар т. Фарбераў спыняе чытку і хвілін дзесяць рэдактары з вялікай актыўнасцю дзеляцца думкамі аб тым, як яны, кожны ў сваім калгасе, правядуць у жыццё атрыманыя ўказанні. Рэдактары дзеляцца таксама вопытам сваёй работы.

Ёсць добрыя баявыя насценгазеты: у калгасе імя Леніна, у калгасе імя Варашылава, у калгасах Баршчоўскага сельсовета. Рэдактары некаторых з гэтых насценгазет прысутнічаюць тут-жа на нарадзе. Міжвольна ўзнікае думка: колькі з гэтых рэдактароў перадавых насценгазет маглі-б ужо сёння быць добрымі работнікамі раённай газеты? Ва ўсякім выпадку 2—3 чалавекі можна лёгка падшукаць.

Але ў рэдакцыі не падумалі аб гэтым. К пачатку сяўбы рэдакцыя засталася без кадраў: не хапае двух інструктароў, тых іменна работнікаў, якія павінны выязджаць у калгасы, праводзіць масавую работу. Вось ужо некалькі месяцаў, як работнікі рэдакцыі не могуць выехаць на раён. Такое-ж становішча, відаць, будзе і на ўвесь час сяўбы.

Усе надзеі ў справе атрымання работнікаў рэдактар ускладае выключна на Менск. І не падумае аб тым, што кадры работнікаў рэдакцыі трэба шукаць перш за ўсё ў калгасах, сярод лепшых, правераных рэдактароў насценгазет і селькораў, што рэдактар павінен сачыць за ростам селькораў, выхоўваць іх і лепшых своечасова высоўваць на работу ў рэдакцыю.

Позна канчаецца семінар рэдактароў. Адчуваецца, што семінар даў рэдактарам вялікую карысць, рэдактары многаму навучыліся, выяснілі многа незразумелых пытанняў. Адчуваецца, што працаваць яны цяпер будуць з большай энергіяй.

Але рэдакцыя не змагла арганізаваць сістэматычныя заняткі рэдактароў. Праведзены толькі тры семінары. Упушчан найбольш зручны для вучобы час.

Як-жа рэдакцыя мяркуе прадаўжаць вучобу рэдактароў? Некалькі добрых мерапрыемстваў ужо намечана. У газеце «Ўдарнік калгасаў» створан пастаянны куток **«У дапамогу калгаснаму рэдактару».** Пачалі перадрукоўваць адрыўкі з заданняў «Крестьянской газеты». Газета зрабіла правільна, бо збіраць рэдактароў у раён у часе сяўбы будзе цяжка. Гэта пачынанне церахаўскай газеты мы раім усім раённым газетам.

Не менш двух раз у месяц рэдакцыя будзе друкаваць агляды насценгазет. З першых дзён сяўбы ў газеце ўводзіцца аддзельчык абмену вопытам «Калгасныя насценгазеты на сяўбе».

Дрэнна ў раёне з брыгаднымі насценгазетамі. Перад пачаткам сяўбы толькі ў двух-трох калгасах раёна былі створаны брыгадныя насценгазеты. Трэба прама заявіць, што і раённая газета, і райком партыі ў справе стварэння ў кожным калгасе брыгадных насценгазет амаль нічога не зрабілі. Толькі ў апошнія дні рэдакцыя ўзялася за брыгадны друк. Выпушчан макет брыгадных насценгазет (у раёне не выдаваліся макеты з таго часу, як «Ударнік калгасаў» друкаваўся ў Гомелі).

Але адзін макет, зразумела не забяспечыць выхаду і добрай работы насценгазет у брыгадах. Рэдакцыя «Ўдарніка калгасаў» павінна цяпер галоўную сваю ўвагу звярнуць на разгортванне ў раёне брыгаднага калгаснага друку, на падбор рэдактароў брыгадных насценгазет, на штодзеннае кіраўніцтва і практычную дапамогу ў іх рабоце.

## ВЫВУЧАЕМ ВОПЫТ РАБОТЫ ФАБРЫЧНА-ЗАВОДСКАГА ДРУКУ МАСКВЫ І ЛЕНІНГРАДА

# Рэдактары фабрычна-заводскіх газет БССР на экскурсіі.



19 рэдактароў фабрычна-заводскіх газет Беларусі з 17 сакавіка па 2 красавіка знаходзіліся ў арганізаванай нашым журналам экскурсіі. Яны пазнаёміліся з работай буйнейшых фабрычна-заводскіх газет Масквы і Ленінграда, пазнаёміліся з гаспадарча-культурнымі дасягненнямі пралетарскіх сталіц нашай вялікай радзімы.

Думка аб арганізацыі такой экскурсіі ўзнікла невыпадкова. Праглядаючы камплекты фабрычна-заводскіх газет Беларусі мы можам бачыць, якія аднастайныя і шэрыя старонкі некаторых газет, як бедна іх тэматыка і які нізкі іх культурны ўзровень.

Экскурсія ў Маскву і Ленінград павінна была, па нашых меркаваннях, узняць ініцыятыву рэдактароў нашых газет. На вопыце перадавых газет нашай краіны яны павінны былі навучыцца лепш арганізоўваць работу рэдакцый шматтыражак, нізавых газет і рабкораў.

Зараз, калі экскурсія скончана, можна смела сказаць, што мэта экскурсіі дасягнута. 19 рэдактароў шматтыражак беларускіх прадпрыемстваў папоўнілі свае веды практычным азнаямленнем з работай перадавых фабрычна-заводскіх газет Масквы і Ленінграда. Нашы рэдактары ўбачылі, як упарта працуюць над сабой рэдактары маскоўскіх і ленінградскіх газет, пераканаліся ў тым, што жывую, цікавую, баявую газету можна выпускаць толькі пры сістэматычнай рабоце рэдактара над сабой, над падняццем свайго культурнага і палітычнага ўзроўню.

Апрача азнаямлення з работай газет экскурсанты пазнаёміліся з буйнейшымі прадпрыемствамі СССР, як аўтамабільны завод імя Сталіна, «Шарыкападшыпнік», «Динамо» (Масква), завод імя Кірава, «Красный треугольник» (Ленінград).

У Маскве і Ленінградзе экскурсанты наведалі музеі «Нашы дасягненні», «Музей рэвалюцыі», Эрмітаж, Трэцьякоўскую галерэю і т. д., пазнаёміліся з дасягненнямі сацыялістычнай культуры, прамысловасці і сельскай гаспадаркі СССР.

Наведванне музеяў, карцінных галерэй, маскоўскіх і ленінградскіх тэатраў узняло культурны ўзровень экскурсантаў, пашырыла іх кругагляд.

19 рэдактароў фабрычна-заводскіх газет Менска, Гомеля, Віцебска, Магілева, Бабруйска і Барысава ўзбагаціліся вопытам работы газет Масквы і Ленінграда. Задача зараз заключаецца ў тым, каб гэты вопыт зрабіць здабыткам усіх фабрычна-заводскіх газет Беларусі.

Гэтым самым мы ўзнімем работу нашага фабрычна-заводскага друку на больш высокую ступень. Зробім нашы газеты цікавымі, прывабнымі, з багатай тэматыкай, зубастымі, глыбока партыйнымі — такімі, якімі з'яўляюцца перадавыя газеты Масквы і Ленінграда.

# Лабараторыя рабкораўскай вучобы

МАСКВА. Завод «Дынамо». Экскурсанты пад кіраўніцтвам намесніка рэдактара заводскай газеты **«Мотор»** знаёмяцца з работай завода.

Электрапаязды, вагоны метро, матэры — вось прадукцыя завода. У цэхах чыста і ўтульна. Інжынер зборачнага цэха тлумачыць экскурсантам працэс вытворчасці электрапоезда. У цэхах — насценгазеты. Каля кожнай насценгазеты экскурсанты спыняюцца, уважліва аглядаюць яе. Цікавыя газеты, добра афармляюцца фото, выразкамі.

Паўтары гадзіны аглядалі цэхі буйнейшага завода. Нарэшце, мы за сталом рэдактара газеты «Мотор» т. **Міхайлава**. З намі лепшыя рэдактары насценгазет завода. Тав. Міхайлаў знаёміць нас з работай заводскага габінета друку.

Габінет друку на «Дынамо» існуе крыху больш года. Памяшканне габінета не вялікае, але ўсё яго абсталяванне і работа шмат дапамагае вучобе рабкора, рэдактара насценгазеты.

Пры габінеце друку існуе **інстытут журналістыкі.** Займаецца там 25 чалавек. За год вучобы інстытут выпускае выдатных газетных работнікаў. Няма-ла рабкораў, скончыўшых заводскі інстытут журналістыкі, працуюць у маскоўскіх гарадскіх газетах і рэдакцыях фабрычна-заводскіх газет. Многія засталіся на заводзе і выкарыстоўваюцца ў якасці рэдактароў буйнейшых цэхавых насценгазет.

Да выкладання ў інстытуце прыцягнуты лепшыя сілы Масквы. Гадавы тэрмін навучання ў інстытуце прымусіў рэдакцыю «Мотора» скараціць лік выкладаемых дысцыплін. Зараз у праграму інстытута ўваходзяць: гісторыя ВКП(б) (па праграме Свердлоўскага інстытута), вучэнне Леніна—Сталіна аб друку, работа над газетным матэрыялам, тэматыка і афармленне газеты, мова і інш. Заняткі праводзяцца раз у два дні па чатыры гадзіны. Слухачы інстытута вызваляюцца ад іншай партыйнай вучобы.

Апрача інстытута журналістыкі пры габінеце друку існуе **семінар для рэдактароў насценгазет.** Семінарам ахоплена



**Адна з магутнейшых у СССР маскоўская радыёстанцыя імя Комінтэрна.**

□ □ □

60 чалавек. Займаюцца тры разы ў месяц.

Няміма гэтага кожны рабкор мае магчымасць вучыцца пры габінеце друку ў **спецыяльных гуртках па розных жанрах газетнай работы.** Для гэтага створаны групы фельетаністаў, нарысістаў, гурткі па вывучэнню паэзіі, фото, літаратуры і мастацтва.

Габінет друку праводзіць розныя конкурсы. У часе аднаго з конкурсаў на лепшы малюнак рабкорамі завода было прадстаўлена каля 300 работ, нарысаваных алоўкам, вугалем і акварэллю.

У заводскай і цэхавых газетах выкарыстоўваецца шмат малюнкаў работы заводскіх рабкораў. У габінеце арганізавана выстаўка лепшых і горшых газет, паказваюцца ўдалыя загалоўкі, «шапкі», паказваецца, як трэба афармляць насценгазеты.

Пры габінеце ёсць досыць вялікая бібліятэка, дзе рабкор і работнік нізавой

рэдкалегіі можа знайсці літаратуру па любому пытанню газетнай работы. Сістэматычна праводзяцца кансультацыі па пытаннях, як пісаць заметку, як цабіцца рэагаванне, як афармляць газету. Габінет друку забяспечвае рэдкалегіі нізавых газет рознымі ілюстрацыямі.

У апошні час габінет друку праводзіць спецыяльныя **дні рабкора.** У гэтыя дні збіраюцца рабкоры, наладжваюцца вусныя агляды паасобных газет, выпускаюцца ўзорныя газеты, абмяркоўваюцца планы работы паасобных рэдкалегій. У заключэнне праведзенага рабкораўскага дня наладжваецца калектыўнае наведванне тэатра, кіно, музея і т. д.

Часта габінет збірае рабкораў па паасобных жанрах работы: фотакораў, літаратараў, мастакоў, наладжвае для іх спецыяльныя экскурсіі ў музеі, у тэатры для пашырэння іх кругавіду і вопыта.

Апрача ўсёй гэтай работы габінет друку выконвае спецыяльныя заданні рэдакцыі.

Нядаўна «Мотор» заняўся падшэфнай заводу школай. Габінет друку арганізаваў сустрэчу школьнікаў з рабкорамі завода. Школьнікі былі ўцягнуты ў работу габінета. Габінет друку арганізаваў у школе дзяткораўскую работу.

Габінетам друку кіруе вызвалены работнік. Ён-жа з'яўляецца і намеснікам рэдактара газеты. У практычную работу габінета ўцягнут і рабкораўскі актыў.

— Наш габінет друку вельмі дапамагае рабоце газеты. Работа габінета з'яўляецца адной з асноўных работ рэдакцыі,—заяўляе т. Міхайлаў.

— Адкуль вы бярэце сродкі для гэтай работы?—пытае рэдактар шматтыражкі магілеўскай шаўковай фабрыкі т. **Ізох.**

— Габінет друку знаходзіцца на ўтрыманні рэдакцыі, а рэдакцыя атрымлівае сродкі ад заводакіраўніцтва і прафсаюза. Мы маем таксама даход ад распаўсюджання газеты. Вельмі добра падтрымлівае нас партком.

Цёпла развітаўшыся з работнікамі «Мотора» і рэдактарамі цэхавых газет, мы позна ўночы пакінулі завод «Дынамо».



Экскурсанты-рэдактары фабрычна-за водскіх газет БССР на заводзе «Красный Выборжец» у Ленінградзе

# Соцнамеснікі ў рэдакцыі

Сёння для экскурсантаў надзвычай цікавы дзень. Сёння, як сказаў тав. **Мінкін**—рэдактар газеты завода «Бальшэвік», мы выраслі на цэлую галаву.

Мы—на тэрыторыі аўтамабільнага завода імя Сталіна — буйнейшым прадпрыемстве Совецкага Саюза, гордасці першай пяцігодкі. 26 тысяч рабочых працуюць на гэтым гіганце.

Наш маршрут—у рэдакцыю.

Тав. **Корнблюм**—рэдактар заводскай газеты **«Догнать и перегнать»**—горача сустракае нас. Ён быў папярэджан яшчэ ўчора аб гэтай сустрэчы і тых пытаннях, якія цікавяць нас.

У зале пасяджэнняў парткома ціха. Чутно шуршэнне блакнотных лісткоў. Экскурсанты запісваюць расказ т. Корнблюма.

Да нядаўніх дзён рэдакцыя газеты «Догнать и перегнать» мела штат у 25 чалавек. Кожны можа зразумець, што штат газеты быў вельмі раздуты. Бывалі часта такія дні, калі рэдактар прыходзіў у рэдакцыю і не мог прыдумаць, чым нагрузіць работнікаў.

Газета на 75 проц. складалася з матэрыялаў работнікаў рэдакцыі. Рабочыя пісьмы выкарыстоўваліся мала. Газета пачала адрывацца ад мас.

Пасля прамовы тав. **Кагановіча** на пленуме камісіі партыйнага кантролю, дзе ён з асаблівай рэзкасцю падкрэсліў разбухшыя штаты заводскіх газет, рэдакцыя газеты «Догнать и перегнать» перабудавала сваю работу. Штат рэдакцыі скарочан да чатырох чалавек, апрача тэхнічных работнікаў. І можна сказаць, што работа значна палепшылася.

Для аператыўнай работы рэдакцыя газеты ў кожным цэху мае соцнамеснікаў. Соцнамеснікі зацверджаны парткомам, і работа іх лічыцца асноўнай партыйнай нагрузкай. Кожны соцнамеснік у сваім цэху займаецца пытаннямі работы нізавога друку, арганізацыі матэрыялу па плану рэдакцыі, сочыць за рэагаваннем на змешчаныя матэрыялы ў газеце і на неапублікаваныя пісьмы рабочых, збірае пісьмы рабочых і здае іх у рэдакцыю. Па даручэнню рэдакцыі правярае праў-



У кавальскім цэху маскоўскага аўтамабільнага заводу імя Сталіна.

дзівасць падаваемых матэрыялаў і т. д.

Па сутнасці соцнамеснік выконвае работу былога вызваленага работніка рэдакцыі з той розніцай, што соцнамеснік ведае лепш спецыфіку свайго цэха, і гэта дае яму магчымасць узнімаць на старонках газеты актуальныя пытанні свайго цэха. Такіх соцнамеснікаў на заводзе 20 чалавек. Для іх рэдакцыя правяла трохдзенныя курсы, дзе яны азнаёміліся з асновамі масавай работы газеты. Рэдакцыя сістэматычна дапамагае соцнамеснікам у іх практычнай рабоце.

Асноўнымі метадамі кіраўніцтва нізавым друкам на заводзе з'яўляюцца: **аднадзенныя выстаўкі нізавых газет, вусныя агляды газет, нарады рэдактароў па спецыяльных пытаннях работы завода** і т. д.

Асаблівай увагі заслугоўвае вопыт правядзення аднадзённых выставак з жывымі вуснымі аглядамі.

Практычна гэта робіцца так. У памяшканні габінета друку збіраюцца работнікі рэдкалегій нізавых газет і рабкоры. Да гэтага дня сабраны вышаўшыя газеты. Падрыхтоўка да выстаўкі пачынаецца за два-тры тыдні раней. Кожны работнік рэдакцыі падрыхтоўвае вусны агляд групы газет і ў дзень, калі вы-



Будынак маскоўскага Вялікага тэатра, які наведалі экскурсанты.

□ □ □ □ □ □

стаўка адкрываецца, з работнікамі рэдкалегій праводзяцца нарады, робяцца агляды, выпускаюцца ўзорныя газеты. Работнікі нізавых газет гавораць аб сваіх удачах і няўдачах. І гэты дзень ператвараецца ў дзень абмену вопытам работы. Заканчваецца выстаўка калектыўным наведваннем тэатра або кіно.

Аднадзенныя выстаўкі вельмі многа даюць рэдактарам нізавых газет у практычным аўладанні газетнай работай.

Нарады рэдактароў праводзяцца радзей. На гэтых нарадах у большасці абмяркоўваюцца пытанні заводскага парадку, напрыклад, аб тэхпромфінплане, якасці прадукцыі і т. д. Пасля выступлення дырэктара завода або іншых кіруючых работнікаў разгортваецца жывая гутарка аб практычных задачах газеты ў сувязі з пастаўленымі на нарадзе пытаннямі.

Тут распрацоўваецца канкрэтны план дзеяння, абмяркоўваецца план работы і т. д.

Пры рэдакцыі працуе літаратурны гурток, які штомесячна выпускае спецыяльную літаратурную газету. Ёсць гурток сатырыкаў і карыкатурыстаў, якія раз у тры-чатыры месяцы выдаюць сатырычны журнал. Гэты журнал мае вялікі поспех у рабочых.

Працуе і гурток рэцэнзентаў. Для іх рэдакцыя арганізоўвае спецыяльныя паходы ў тэатр, кіно, пасля чаго яны даюць рэцэнзіі ў газету. Рэцэнзентам сістэматычна чытаюць лекцыі аб мастацкай літаратуры. Для гэтага прыцягваюцца прафесары і іншыя спецыялісты.

На старонках газеты «Догнать и перегнать» вельмі многа матэрыялу культурнага парадку—аб тэатрах, мастацкай літаратуры, многа карыкатур і зарысовак. Гэта, безумоўна, ажыўляе старонкі газеты, робіць іх прывабнымі.

Так паставіла сваю масавую работу рэдакцыя газеты буйнейшага прадпрыемства Масквы, так газета «Догнать и перегнать» штодзенна дабіваецца паляпшэння сваёй работы.

Пасля гутаркі ў рэдакцыі «Догнать и перегнать» мы аглядалі завод. Тры гадзіны хадзілі вакол галоўнага канвеера і кожнаму не хацелася выходзіць. Тав. **Фелер**—рэдактар «Варашылаўца» з гадзіннікам у руках правяраў, праз колькі мінут зыходзіць з канвеера новая грузавая машына. 10 мінут—і машына сабрана. За рулём шофер, уключан матор і машына пашла.

Усхваляваныя ўсім бачаным, бадзёрыя вышлі экскурсанты з завода імя Сталіна.

**Я. Эстэркін.**

# „Двигатель" у барацьбе за якасць прадукцыі

Завод **«Красный пролетарий»** — буйнейшы ў Саюзе завод па варштатабудаўніцтву. Яго прадукцыю можна сустрэць на любым прадпрыемстве нашага вялікага Савецкага Саюза.

На заводзе «Красный пролетарий» выходзіць друкаваная газета **«Двигатель»**.

Ёсць чаму павучыцца ў газеты «Двигатель» і асабліва ў галіне барацьбы за якасць прадукцыі. Газета па-баявому, аператыўна, надзвычай жыва і цікава праводзіць гэту работу.

Нядаўна ўдарнікі завода імя Дзержынскага (Масква) унеслі прапанову — прымаць прадукцыю, дэталі, станкі з адзнакай «выдатна», «добра», «здавальняюча». Газета «Двигатель» адразу падхапіла гэту прапанову, арганізавала на сваіх старонках выступленні рабочых,

брыгадзіраў, майстроў і прыёмшчыкаў.

У цэхах узмоцнена абмяркоўвалі пытанне, як лепш арганізаваць гэту новую справу, распрацоўвалі ўмовы прыёмкі прадукцыі, стымулявання лепшых ударнікаў, якія здаюць прадукцыю на «выдатна» і «добра».

Адны:мі з першых распрацавалі гэтыя ўмовы інструментальшчыкі. Былі падрабязна прапрацаваны ўмовы ацэнкі зробленай работы.

Так, напрыклад, для таго, каб атрымаць ацэнку «выдатна», дэталь або інструмент павінен быць зроблен строга па чарцяжу і ў допусках, прыгожа, чыста, беззаганна з знадворнага выгляду, не мець ніякіх драпін і забоін.

Для параўнання якасці знадворнай аддзелкі былі згатоўлены спецыяльныя эталоны (ўзоры). Падрабязна распрацаваны і ўмовы стымулявання лепшых ударнікаў. Рабочы, які здае на працягу месяца звыш 50 проц. прадукцыі на «выдатна» і астатнія на «добра», атрымлівае першую прэмію. Рабочы, які здае 40 проц. прадукцыі на «выдатна», а астатнія на «добра», атрымлівае другую прэмію і т. д.

Газета паказала гэты вопыт на сваіх старонках, заклікаючы астатніх рабочых раўняцца па інструментальшчыках.

***

Зараз па ініцыятыве газеты на заводзе рыхтуецца **«Заводская канферэнцыя па якасці».** Газета здолела высунуць рад цікавейшых форм і метадаў падрыхтоўкі да канферэнцыі.

Вось адна з такіх форм.

**«Чый станок лепшы»** пад такім аншлагам газета праводзіць зараз цікавае мерапрыемства. Па ініцыятыве газеты, падтрыманай кіраўніцтвам завода, адзін станок, ужо гатовы да адправўкі спажыўцу, разбіраецца з тым, каб выявіць дэфекты і недаробкі. Газета шырока паказвае на сваіх старонках рэзультаты разбору.

**«Нават павярхоўны агляд гаворыць аб тым, што якасць нашых станкоў яшчэ дрэнная. Станок № 4552 (ДИП-20) брудны. Валікі і ручкі не ачышчаны ад фарбы. Патрон не ачышчан ад грязі і чыгуннай стружкі...**

**Ключы для рэгулявання і зажыму колец шпіндэля не падыходзяць і патрабуюць дадатковай апрацоўкі. Забі-**



Экскурсанты наведалі першы і адзіны ў СССР маскоўскі планетарый.

□ □ □ □ □

**ты шпаклёўкай адтуліны для змазкі станка».**

Усяго ў станку «ДИП-20» выкрыта звыш 70 дэфектаў і недаробак. Але на паказе рэзультатаў разбору станкоў газета не спыняецца. Якая брыгада збірала варштат? Хто канкрэтна вінаваты ў дрэннай рабоце? Газета паслядоўна праводзіць барацьбу за ліквідаванне выяўленых недахопаў.

У газеце сістэматычна змяшчаецца зараз аддзел «Хроніка падрыхтоўкі да канферэнцыі па якасці». У гэтым аддзеле газета абагульняе каштоўны вопыт па падрыхтоўцы да канферэнцыі.

Збор рабочых прапаноў па паляпшэнню якасці прадукцыі, сустрэчы рабочых асобных участкаў і брыгад зборачных цэхаў з механічнымі, разбор у выбарачным парадку станкоў для праверкі іх якасці і рад іншых каштоўнейшых мерапрыемстваў пакладзены ў аснову падрыхтоўкі да канферэнцыі па якасці.

***

Што яшчэ робіць жывой і аператыўнай барацьбу газеты за якасць — гэта добрая падача матэрыялаў, умелае афармленне газеты.

Жывыя вострыя загалоўкі, як «Навозную кучу разрывая, петух нашел... прекрасную деталь», «Стружка вьется... растут отходы» і інш., жывая, граматная мова заметак прыцягваюць чытача да старонак газеты.

І гэтыя жывыя загалоўкі, жывая мова газеты з'яўляецца рэзультатам таго,

што калектыў рэдакцыі газеты «Двигатель» і ў асаблівасці рэдактар тав. **Кайданаў** вельмі многа працуюць над сабой, павышаюць свой палітычны і культурны ўзровень.

Тав. Кайданаў многа працуе над літаратурай. Яго блок-нот спісан рознымі вытрымкамі з мастацкай літаратуры: Салтыкова-Шчэдрына, Крылова, Безыменскага, Зошчанка і інш. І гэтыя вытрымкі часта выкарыстоўваюцца для загалоўкаў, «шапак», эпіграфаў. Гэта безумоўна ўзбагачае і ажыўляе старонкі газеты.

Арганізаваная рэдакцыяй «**Большэвіцкі друк**» экскурсія на завод «Красный пролетарий», азнаямленне з работай газеты «Двигатель» дало нам, рэдактарам шматтыражак фабрык і заводаў вельмі многа карыснага. Мы ўбачылі, як трэба працаваць, каб ператварыць і нашы шматтыражкі ў сапраўдных баявых арганізатараў рабочых на выкананне пастаўленых партыяй задач, асабліва ў галіне паляпшэння якасці прадукцыі соцыялістычнай прамысловасці.

**І. ФЕЛЛЕР** — **рэдактар шматтыражкі «Варашылавец».**

# АРГАНІЗУЕМ НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ ГАБІНЕТЫ ДРУКУ

Выключную цікавасць прадстаўляе габінет друку маскоўскага электрамеханічнага завода «Динамо» імя Кірава. У ім сканцэнтравана ўся масавая рабкораўская работа і вучоба. Выстаўкі газет, розныя турткі — усё, што ёсць у габінеце, шмат дапамагае ў рабоце рабкораў. Тут арганізавана вітрына лепшых і горшых насценгазет. На спецыяльным стале пад шклом знаходзяцца надрукаваныя памяткі аб тым, як трэба пісаць заметку, як афармляць газету, некалькі вытрымак з Леніна і Сталіна аб друку. На некаторых вітрынах змешчаны агляды па асобных пытаннях, як мова, дзейснасць і аператыўнасць, масавасць розных насценгазет. Кожны рабкор мае магчымасць некалькі гадзін чытаць у габінеце газеты, журналы.

Габінет друку праводзіць у цэхах нарады рабкораў пры дапамозе і ўдзеле рэдакцыі шматтыражкі. Агульна-заводскія злёты збіраюцца вельмі рэдка, але да іх габінет сур'ёзна рыхтуецца. Напрыклад, пры падрыхтоўцы злёта па пытанню якасці спачатку быў праведзен агляд усіх насценгазет, арганізавана выстаўка браку. Гэта дае магчымасць добра азнаёміцца з газетамі кожнага цэха, правесці злёт больш жыва, актыўна, на канкрэтных прыкладах разабраць станоўчыя бакі і недахопы кожнай газеты.

Злёты заканчваюцца работай розных секцый: па мове, афармленню, тэматыцы і інш. пытаннях.

Такія габінеты друку існуюць на радзе іншых заводаў і фабрык Масквы і Ленінграда: на заводзе «Шарыкападшыпнік» імя Кагановіча, аўтазаводзе імя Сталіна і інш.

Габінет друку сапраўды з'яўляецца школай выхавання новай арміі рабкораў, узняцця газетных і агульных ведаў і культурнага ўзроўню кожнага работніка нізавой насценгазеты.

Цікавы вопыт работы габінета друку, перададзены нам рэдактарам газеты «Мотор» тав. **Міхайлавым,** многаму нас навучыў.

І зараз мы ставім перад сабой задачу дабіцца арганізацыі габінета друку па прынцыпу габінета завода «Динамо».

**ШЛЕЙФМАН («Палеская праўда»).**

**АСАЕНАК (завод імя Кірава, Менск).**

**ЯХНОВІЧ (фабрыка «Праца» Гомель).**

Б. ШПІТАЛЬНІК

# Дзесяць дзён на вучобе

Цяга рабселькораў да вучобы надзвычай вялікая. Кожны рабселькор імкнецца павысіць свой культурны ўзровень. пашырыць свае веды.

Рэдактар насценгазеты калгаснай брыгады адчувае, што без павышэння сваіх ведаў, без павышэння ведаў усёй рэдкалегіі газета не зможа задавольваць усё ўзрастаючыя запатрабаванні чытача. Сёнешні калгаснік—культурна ўзросшы чытач. Ён прад'яўляе да сваёй насценнай газеты высокія патрабаванні.

Вось чаму так востра ўзнімалася пытанне аб вучобе рабселькораў і работнікаў нізавых газет у выступленнях дэлегатаў III усебеларускага з'езда рабселькораў. Гэта знайшло свой адбітак і ў адозве з'езда рабселькораў да ўсіх рабселькораў БССР.

«Рабселькор павінен павышаць і сваю агульную граматнасць, — гаворыцца ў адозве з'езда.—У гэтай справе нам акажае вялікую дапамогу **«Крестьянская газета»** арганізацыяй завочнага навучання рэдактароў брыгадных і калгасных газет. Задача кожнага рабселькора — быць ударнікам вучобы.

«Вучыцца, вучыцца і вучыцца—баявая задача кожнага рабселькора» (З адозвы III усебеларускага з'езда рабселькораў).

Абавязак кожнай рэдакцыі раённай газеты — арганізаваць вучобу рабселькораў, арганізаваць семінары, кароткатэрміновыя курсы для рэдактароў брыгадных і калгасных газет.

***

Комуністычны інстытут журналістыкі імя К'рава сумесна з сельскагаспадарчым аддзелам Менгаркома КП(б)Б арганізавалі ў канцы сакавіка дзесяцідзённыя курсы рэдактароў і членаў рэдкалегій калгасных насценгазет. Курсантам былі створаны належныя ўмовы (інтэрнат, харчаванне) для нармальнай вучобы.

На курсах навучалася 15 чалавек. Сярод курсантаў было 9 комсамольцаў,



Нізавы брыгадны друк калгасаў Менскага раёна.

астатнія беспартыйныя. Рэдактароў насценгазет было 7, членаў рэдкалегій—4, астатнія 4 курсанты — селькоры, якія непасрэдна яшчэ не працавалі ў рэдкалегіях насценгазет. Увесь склад курсантаў — моладзь ва ўзросце ад 1906 да 1918 г. нараджэння.

У аснову работы курсаў была пакладзена праграма, распрацаваная Ўсесаюзным КІЖ'ам імя «Праўды».

З курсантамі распрацаваны наступныя тэмы: 1) як арганізаваць работу брыгаднай насценгазеты; 2) як працаваць з селькорамі; 3) выпуск нумара насценгазеты; 4) як пісаць і правіць заметкі; 5) аператыўныя формы газетнага матэрыялу ў брыгаднай газеце; 6) афармленне насценгазеты і 7) як вучаць працаваць у большэвіцкім друку Ленін і Сталін. Курсы пачалі сваю работу з гутаркі старшыні Менскага РВК з курсантамі аб задачах нізавога друку ў веснавой пасеўнай кампаніі.

Кожная тэма праводзілася ў форме разгорнутай гутаркі. Кожны слухач уцягваўся ў актыўнае абмеркаванне пытанняў тэмы. Гэта дало магчымасць шырока паставіць на курсах абмен вопытам работы рэдактароў і членаў рэдкалегій насценгазет, выявіць недахопы паасобных насценгазет і паказаць лепшы вопыт работы.

Амаль па кожнай тэме курсантам да-

валіся практычныя заданні, якія выконваліся (у пераважнай свaёй частцы) у прысутнасці выкладчыкаў. Кожная практычная работа курсантаў абмяркоўвалася ў групе і тут-жа выпраўляліся недахопы.

З курсантамі былі выпрацаваны месячныя планы работы рэдкалегій (выходзячы з канкрэтных умоў кожнага калгаса, брыгады ў паасобку). Курсанты пісалі і правілі заметкі, афармлялі насценгазеты.

Курсы — кароткатэрміновыя, але яны шмат далі пачынаючым работнікам нізавога друку для іх далейшай практычнай работы. Курсанты захапляліся вучобай, з вялікай ахвотай яны па некалькі раз перапісвалі заметкі (пасля іх разбору), перабудоўвалі планы.

У гутарцы, праведзенай пасля сканчэння курсаў, з загадчыкам культпропа Менгаркома КП(б)Б т. **Літвінам** і загадчыкам сельскагаспадарчага аддзела тав. **Варончанка** курсанты ахарактарызавалі работу курсаў.

Рэдактар брыгаднай газеты калгаса імя «II з'езда калгаснікаў-ударнікаў» т. **Плашчынскі** заявіў:

«Курсы мне далі шмат. Я і раней пісаў заметкі і выпускаў газету, але газета і заметкі былі неканкрэтнымі, у іх адсутнічалі канкрэтныя прыклады і прозвішчы людзей. А зараз я ведаю, як добра афармляць газету, як арганізаваць работу з селькорамі».

Тав. **Гвардзіян** з калгаса «1 мая» (Крупіцкі сельсовет) і тав. **Пашык** з соўгаса «1 мая» (Астрашыцка-Гарадзецкі сельсовет) да курсаў не выпускалі газет, іх толькі зараз вылучаюць у рэдкалегіі. У сваіх выступленнях яны заявілі, што за час вучобы на курсах яны сябе падрыхтавалі для актыўнай работы ў нізавым друку.

Невялічкі вопыт, накоплены ў часе правядзення гэтых курсаў, гаворыць за тое, што неабходна будзе арганізаваць рад такіх курсаў, каб ахапіць імі значна большую колькасць людзей. Такія-ж курсы трэба будзе арганізаваць на месцах пры рэдакцыях раённых газет.

# Занятки семінара зрываюцца

## (Пісьмо ў рэдакцыю)

Менгарком КП(б)Б прымацаваў мяне да электрастанцыі для кіраўніцтва семінарам рэдактароў цэхавых і брыгадных газет.

Гэта было яшчэ ў пачатку лютага. Я прышоў на электрастанцыю, пагутарыў з сакратаром парткома і рэдактарам шматтыражкі. Дагаварыліся да III усебеларускага з'езда рабселькораў правесці не менш двух заняткаў.

Але... з таго часу рэдактар шматтыражкі т. **Саннікаў** усё ніяк не можа сабраць удзельнікаў семінара: ніхто не прыходзіць. Заняткі зрываюцца.

Саннікаў не ведае, што рабіць і толькі разводзіць рукамі: «Не вінаватжа я, што людзі не збіраюцца».

У сакавіку на т. Саннікава найшло «натхненне». Ён парашыў «зацікавіць» рабкораў — правесці семінар за чашкай чаю, а потым пайсці ў кіно.

Але і гэты «план» рухнуў, Саннікаў не атрымаў грошай... і семінар і на гэты раз не адбыўся.

Гарком партыі павінен зацікавіцца гэтай справай.

На электрастанцыі нямала рабкораў, рэдактароў цэхавых і брыгадных газет. Партыйны камітэт электрастанцыі і рэдактар шматтыражкі абавязаны забяспечыць вучобу рабкораў, работу семінара рэдактароў нізавых газет.

**І. ВУЛ.**

## АБ РАБОЦЕ З ПІСЬМАМІ ПРАЦОЎНЫХ І РАБСЕЛЬКОРАМІ

□ □ □

# КАЛІ-Б РЭДАКТАР ЗАЗІРНУЎ У АРХІЎ

У снежні мінулага года рэдакцыя газеты **«Рабочий»** атрымала заметку аб агіднасцях у Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце.

> «Ужо снежань,—пішацца ў заметцы,—а ў інтэрнаце Горацкага сельскагаспадарчага інстытута яшчэ не топлена. Рыхтавацца да лекцый немагчыма. У пакоях з'яўляецца сырасць і ападае штукатурка. Дырэктар інстытута Барысевіч і прафком не турбуюцца аб інтэрнатах, а камендант т. Гаймонава толькі разводзяць рукамі.
>
> ЖУРАЎЛЁЎ, КІСЕНІН».

Пакуль гэта заметка, па віне рэдакцыі «Рабочего», два з паловай месяцы вандравала не па прызначэнню, у рабоце Горацкага сельскагаспадарчага інстытута па сігналах **«Звязды»** былі выкрыты недапушчальныя агіднасці, кіраўніцтва інстытута было знята з работы, заменена новым. Недахопы, аб якіх пісалі студэнты ў газету «Рабочий», былі ліквідаваны.

Уся гэта справа адбывалася ў студзені, і аб ёй пачалі ўжо забываць, як раптам у канцы лютага Наркамзем БССР атрымлівае ад рэдакцыі газеты «Рабочий» памянёную вышэй заметку за снежань 1934 года з патрабаваннем неадкладна рэагаваць на яе.

Наркамзем правільна «рэагаваў» на заметку, адаслаўшы яе ў аддзел культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б, як узор бяздушных, бюракратычных адносін «Рабочего» да пісем працоўных.

***

Ці з'яўляецца гэта адзіным, выпадковым фактам у практыцы работы рэдакцыі «Рабочего»? На жаль, не. Такія факты не адзіныя. У «Рабочем» пануюць недапушчальныя, антыпартыйныя адносіны да пісем працоўных і рабселькораўскіх сігналаў, сотні пісем працоўных здаюцца ў архіў не толькі без адпаведнага рэагавання на іх, але і без адказу аўтарам.

Прывядзем прыклады. 26 лютага рэдакцыя атрымлівае пісьмо такога зместу:

> «У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «РАБОЧИЙ».
>
> Кліентура г. Менска просіць спыніць агідныя адносіны да кліентуры пры здачы выручак. Для таго, каб здаць грошы, неабходна пастаяць у чарзе не менш 2—3 гадзін».

Пісьмо падпісваюць **Карповіч** (Белхарчгандаль), **Жыткоўская** (Менгартоп), **Файн, Сокалава** і яшчэ 20 чалавек.

Трэба быць бяздушным бюракратам, каб на такім пісьме напісаць: «Архіў, не зразумела, аб чым ідзе гутарка», як гэта зрабіла работніца рэдакцыі т. **Пашучэнка.** Варта было-б толькі зняць тэлефонную трубку і пазваніць у Белхарчгандаль т. **Карповічу,** або ў Менгартоп т. **Жыткоўскай,** каб выявіць, у чым справа, і прыняць неабходныя меры.

Кур'ер т. **Бейненсон** у сваім пісьме ў рэдакцыю «Рабочий» скардзіўся, што пошта сістэматычна не дастаўляе яму выпісаныя газеты, што ён, затраціўшы грошы на выпіску, вымушан купляць газеты ў ларках. Зноў той-жа рукой пішацца рэзалюцыя: «Не канкрэтна, у архіў».

А чаго варта такая «мудрая» рэзалюцыя на пісьме аднаго рабочага:

> «Гэтаму рабкору верыць нельга, бо ён на гэтым заводзе працуе ўсяго 7 дзён.
>
> МЯДЗВЕДЗЕВА».

Так і хочацца сказаць вядомымі словамі, якія, да рэчы, вельмі да спадобы рэдактару «Рабочего» т. **Хейфецу:** «Памры Дзянік, лепш не напішаш».

Рэдакцыя атрымлівае карэспандэнцыю, у якой указваецца, што калгас імя Молатава, Ляскавіцкага сельсовета, Петрыкоўскага раёна, у барацьбе за рэалізацыю ўказання правадыра партыі т. Сталіна дабіўся арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання. У рэзультаце, калі

калгаснікі ў 1933 г. на працадзень атрымлівалі зернавых 1,9 кгр., бульбы 6,41 кгр., дык у 1934 г. яны атрымалі: зернавых—4,68 кгр., бульбы—17,40 кгр. і т. д.

Прыводзяцца канкрэтныя калгаснікі, колькі яны атрымалі на працадзень, паказваецца поўная гатоўнасць калгаса да сяўбы. І на гэтай карэспандэнцыі—рэзалюцыя: «У архіў. Факты—нічога выключнага. А. Турэцкі». Няўжо «Рабочему» патрэбна толькі выключнае, сенсацыйнае!

Мы ўзялі з архіва некалькі пісем з рэзалюцыямі. А колькі іх ляжыць у архіве без усякіх рэзалюцый, ці з такімі надпісамі: «Архіў, без пісьма». У гэтым надпісе праяўлена столькі «клопатаў» аб тым, каб хто-небудзь выпадкова не падумаў напісаць аўтару адказ аб лёсе яго допіса.

Так рэдакцыяй газеты «Рабочий» грабяцца сотні пісем працоўных.

Грабяцца яны і другім метадам. Часта пісьмы апрацоўваюцца здаюцца ў набор, ляжаць пяцідзнеўкамі ў друкарні, а потым... ідуць у разбор з нязменным надпісам «архіў», без усякага рэагавання і адказу аўтарам.

Вось селькор піша, што ў Чэрвеньскім раёне

> **«не ўдзяляюць патрэбнай увагі падбору кіруючых кадраў. У праўленне калгаса імя Будзённага пралезлі былыя цвёрдазаданнікі Лугаўскі і Капанец. Яны дэзарганізуюць работу калгаса».**

У заметцы прыводзяцца факты агіднага кіраўніцтва і другімі калгасамі раёна. Заметка набіраецца, ляжыць доўгі час у друкарні, каб атрымаць надпіс «разбор, архіў».

Рабкор газеты «Рабочий» **С. Гардон** піша аб тым, што

> **«Дырэкцыя завода «Ўдарнік» (Менск) ігнаруе загад Наркоммясцпрома аб прэміраванні за эканомію апалу. Брыгада качагараў на чале з т. Сташкевічам эканоміць у месяц да 20—25 тон апалу, але на 1 снежня мінулага года прэміяльных за гэта не атрымала. Неаднаразова заяўлялі аб гэтым тэхдырэктару т. Ваўчку, механіку Фрэнкелю, але ніхто не зварачае ўвагі на гэтыя заявы».**

Праляжаўшы набраным доўгі час, гэта пісьмо атрымлівае рэзалюцыю намесніка рэдактара тав. **Фішбейна:** «разбор».

Нават і тыя пісьмы, для праверкі якіх рэдакцыя пасылае сваіх работнікаў (што робіцца вельмі рэдка), таксама пападаюць у архіў. Прыводзім адно з іх цалкам:

**«ЧУЖАК ПАД МАСКАЙ СПЕЦА»**
(ПІСЬМО РАБОЧАГА)

> **Рабочы зараз хоча, каб у яго пакоях была чыстата, утульнасць, каб яны былі прыбраны кветкамі. Але як трэст зялёнага будаўніцтва (Менск) клапоціцца аб забеспячэнні працоўных кветкамі?**
>
> **З восені трэст меў 4.000 штук ляўкояў. На зіму яны былі пастаўлены ў непрыстасаваныя парнікі, дзе тэмпература даходзіла да 5 градусаў ніжэй нуля. Большая частка кветак загінула.**
>
> **У трэсце працуе садавод--лішэнец Гольш. Ён раз'язджае па камандзіроўках і спекулюе кветкамі трэста. Гэты класавы вораг, які прымайстраваўся ў трэсце, не сустракае належнага адпору.**
>
> **Другі садавод, ён-жа парторг трэста Бяляк да работы адносіцца безадказна. Па яго віне было замарожана шмат кветак».**

Гэта пісьмо было набрана. Пад ім дана прыпіска:

> **«АД РЭДАКЦЫІ. Усе факты, аб якіх піша рабкор, пры праверцы на месцы поўнасцю пацвердзіліся. Дырэктар трэста Пучдавец ведаў, што ў мінулым Гольш быў уласнікам буйнага кветкавага заведзення ў Менску і быў пазбаўлен выбарчых правоў. Працуючы ў трэсце, Гольш знаходзіўся ў камандзіроўках удвая і ўтрая больш, чым было патрэбна, атрымліваў за гэта камандзіровачныя. Ён сабатаваў работу і нядаўна збег з трэсту, пакінуўшы кветкавую гаспадарку ў запушчаным стане.**
>
> **Усё гэта гаворыць аб тым, што кіраўнікі трэста страцілі класавую пільнасць, далі магчымасць чужаку працягваць шкодніцкую справу на іх вачах. Верна і тое, што некалькі тысяч кветак з-за безгаспадарчасці кіраўніцтва памерзлі і прышлі ў нягоднасць.**
>
> **Горсовет павінен навесці парадак у трэсце».**

Гэтае пісьмо напаткаў «лепшы» лёс.

Яно было разабрана і пасля таго, як праляжала ў рэдакцыі 16 дзён, паслана для расследвання ў горсовет. Пасля расследвання пісьма рэдакцыяй яго нанчне зноў расследаваць горсовет!

Аналагічных фактаў вельмі многа. Усіх іх на старонках журнала пералічыць нельга.

І так сотні пісем, прысланых у рэдакцыю «Рабочего», засталіся без рэагавання і без адказаў аўтарам, што зроблена з іх пісьмамі.

Але часта не лягчэй і тым аўтарам, якім пасылаецца адказ. Вось карэспандэнцыя селькора з Глускага раёна т. **Бецера,** які сігналізаваў аб масавым утойванні пры перапісе жывёлы па раёну. Тав Бецер піша, што старшыня калгаса «Шлях соцыялізма», Клятнянскага сельсовета, кандыдат партыі т. **Лугін А.** утаіў парасё і ягнё, намеснік дырэктара лесправгаса **Здаsucceeded**—свінню, фельчар глускай больніцы Забрыцкі —свінню і цёлку і т. д. Гэта карэспандэнцыя пасылаецца ў архіў, а аўтару на машынцы друкуецца адказ, што яе не маглі скарыстаць, бо не было места. Справа не толькі ў тым, што трэба было паслаць гэту заметку на рэагаванне, а яе накіравалі ў архіў. Нас зараз цікавіць тое, што нават і гэты адказ не папаў аўтару, бо на ім была напісана рэзалюцыя: «Няма адраса». Між тым, над карэспандэнцыяй т. Бецера чытаем прыпіску:

**«Тав. Дзерах!**

**Пры гэтым пасылаю вам матэрыял аб становішчы кантрольнай праверкі жывёлы па Глускаму раёну Ў АДКАЗ НА ВАША ПІСЬМО»** (падкрэслена намі. «Б. Д.»).

Значыць, адрас быў, але бюракраты з «Рабочего» не патурбаваліся яго пашукаць.

Аўтарам заметак «На станцыі Ўрэчча агідна растлумачваюць рашэнні пленума»—т. **Луцго,** «Таптанне на месцы»—т. **Смірнову** і многім іншым таксама не лягчэй ад таго, што іх заметкі пашлі ў архіў, а яны атрымалі адказ, што для іх пісем у газеце не знайшлося месца.

Мы ўжо не спыняемся на такіх фактах, як дрэнны ўлік пісем, адсутнасць работы сярод рабселькораў, якіх налічваецца ў газеце ўсяго 284 і да якіх адносяцца выключна са спажывецкімі патрабаваннямі. Але і прыведзеныя факты даволі ярка характарызуюць бюракратычныя, бяздушныя, безадказныя адносіны работнікаў рэдакцыі «Рабочего» да пісьмаў працоўных і рабселькораў, ігнараванне пастаноў партыі па гэтаму пытанню.

***

Нельга абыйсці моўчкі і такое пытанне, як няправільная выплата ганарару. У пагоні за ганарарам, карыстаючыся адсутнасцю кантролю з боку рэдактуры, работнікі рэдакцыі выцесняюць рабселькораўскія заметкі. З той нязначнай колькасці рабселькораўскіх заметак і пісем працоўных, якія паступаюць у газету, друкуецца толькі каля 25 проц. Яшчэ горш тое, што работнікі рэдакцыі дайшлі нават да таго, што прысвойваюць ганарар рабселькораў. У нумары ад 7 студзеня змешчана палаca аб вольным гандлі хлебам. Тут змешчаны карэспандэнцыі жонкі рабочага фабрыкі «Октябрь» **Кітайчык** Фані, бракёраў: **Курмініча, Левіна,** прадаўшчыцы т. **Шулькінай** і т. д. Іх ганарар атрымліваюць работнікі рэдакцыі **Мядзведзева, Кукуй.** За артыкул т. **Клімковіча** «За аўладанне мастацкай літаратурай» атрымлівае ганарар работнік рэдакцыі т. **Турэцкі.**

У нумары ад 9 лютага змяшчаюцца карэспандэнцыі свінаркі калгаса «Комінтэрн», Магілеўскага раёна: «Што я раскажу т. Сталіну», калгасніка калгаса «Пролетарская комуна», Касцюковіцкага раёна, т. **Туманкова:** «К сяўбе гатовы», старшыні калгаса імя Чарвякова т. **Пішчэні:** «Выконваем указанне правадыра» і інш. Ганарар атрымліваюць работнікі рэдакцыі тт. **Дзерах** і **Кукуй.**

Такім-жа шляхам атрымлівалі рабселькораўскі ганарар і другія работнікі рэдакцыі.

Пасля ўсяго гэтага не выпадкова, што рэдакцыя масавай газеты «Рабочий» атрымлівае ў дзень у сярэднім усяго 25—27 карэспандэнцый, у якія ўваходзяць і карэспандэнцыі сваіх ра-

ботнікаў (уласных карэспандэнтаў, камандзіраваных работнікаў).

***

Калі аб усіх гэтых агіднасцях было заяўлена адказнаму рэдактару «Рабочего» т. **Хейфецу,** ён катэгарычна заявіў:

— Ніколі не паверу, каб у мяне без вынікаў гінулі сотні пісем. Ганарар таксама правільна выплачваецца, бо аб гэтым я даваў загад яшчэ ў студзені.

Прышлося паказаць яму кучу нявыкарыстаных пісем, каб ён пераканаўся, што работа з пісьмамі ў рэдакцыі пастаўлена зусім дрэнна.

Прышлося выцягнуць з архіва разметку ганарару, каб упэўніць т. Хейфеца ў тым, што ў «Рабочем» няправільна выплачваецца ганарар.

Усё гэта сведчыць аб тым, што кіраўніцтва рэдакцыі часта не ведае, што робіцца ў аддзеле пісем, не заглядвае ў архіў. А трэба гэта рабіць. Калі-б т. Хейфец больш цікавіўся работай аднаго з асноўных аддзелаў газеты—аддзела пісем, тады-б не было такіх агіднасцей, якія выяўлены ў «Рабочем».

**М. САКАЛОЎСКІ, ШОК, СТРЭЛЬЧАНКА.**

# ПРА СЕЛЬКОРАЎ „КАЛЕКТЫВІСТ" ЗАБЫЎ

Калгасы Чабатовіцкага, Ворхаўскага, Бярвенаўскага і Смычкоўскага сельсаветаў пачалі веснавую сяўбу. Набліжаецца масавая сяўба яравых па ўсяму **Уваравіцкаму** раёну.

У паспяховым разгортванні сяўбы велізарную ролю павінен адыграць наш бальшэвіцкі друк і селькоры. **Уваравіцкая** раённая газета якраз гэтага і не ўлічыла. Рэдакцыя **«Калектывіста»** не мабілізавала селькораў і нізавы калгасны друк на барацьбу за высокі ўраджай, не ўзброіла рабселькораў спецыяльнымі ведамі агратэхнікі. Адсутнасць работы з рэдкалегіямі нізавых газет прывяла да таго, што ў радзе калгасаў, як «Ударнік 5-годкі», імя Варашылава, насценгазеты зусім спынілі свой выхад. Не адчуваецца і штодзеннага партыйнага кіраўніцтва работай селькораў і насценгазет.

Нельга не адзначыць безадказныя адносіны рэдакцыі раённай газеты да разгортвання **завочнай вучобы селькораў і рэдактароў** калгасных насценгазет па курсах **«Крестьянской газеты».** Рэдакцыя «Калектывіста» атрымлівае з рэдакцыі «Крестьянской газеты» ўсе неабходныя матэрыялы і падручнікі па завочнай вучобе, але гэтыя матэрыялы астаюцца ляжаць у сталах рэдакцыі. Большасць лепшых рэдактароў калгасных газет нават не ведаюць аб існаванні курсаў завочнай вучобы.

Нельга прайсці моўчкі і міма таго, што нідзе, ні на адной нарадзе селькораў не абмеркаваны рашэнні III усебеларускага з'езда рабселькораў.

Нізавы друк і рабселькоры—велізарныя ўагары ў паспяховым разгортванні сяўбы. На жаль, яны выпалі з увагі рэдакцыі «Калектывіста».

**А. КАЗІМІРАЎ.**

**Рабoтнік газеты «Калектывіст».**

**АД РЭДАКЦЫІ: Факты, паведамленыя тав. А. КАЗІМІРАВЫМ, аб становішчы работы з нізавым друкам і рабселькорамі ва уваравіцкай газеце заслугоўваюць неадкладнага рэагавання уваравіцкага РК КП(б)Б. Перш за ўсё за адсутнасць работы з нізавым друкам і рабселькорамі адказвае кірэўніцтва рэдакцыі — рэдактар газеты т. БУЛКО.**

**Але нельга не сказаць аб адказнасці і астатніх работнікаў газеты, у прыватнасці т. Казімірава. У даным выпадку тав. Казіміраў узяў на сябе ролю пабочнага наглядальніка агіднай работы сваёй рэдакцыі з рабселькорамі. Тав. А. Казіміраў—комуніст, загадчык сельскагаспадарчага аддзела газеты. І таму мы ў праве патрабаваць ад тав. Казімірава не толькі крытыкі недахопаў у рабоце газеты, а бальшэвіцкай работы па ліквідацыі гэтых недахопаў.**

# ШТОДЗЕННЫЯ КЛОПАТЫ АБ КАНІ

У адзін з пагодных дзён, калі веснавое сонца растапіла апошнія лапінкі снегу, рэдактар калгаснай насценгазеты Іван **Лапаценка** з групай селькораў абыходзіў калгасныя канюшні. Дзень быў нерабочы, і да селькораўскай брыгады далучылася многа калгаснікаў. Так і хадзілі ад канюшні да канюшні, правяралі, як даглядаюцца коні, як кормяцца, пояцца, чысцяцца.

Асабліва звярнулі ўвагу на догляд жаробных кабыл. Аказалася, што жаробных кабыл конюхі зусім не вылучалі і ніякага асобнага догляду іх не было.

Адсюль селькоры і пачалі. Праз некалькі дзён пасля рэйду калгаснікі чыталі ў чарговым нумары насценгазеты артыкул аб доглядзе жаробных кабыл. Гэта быў талковы і канкрэтны артыкул. У ім не толькі выкрываліся тыя недахопы, якія селькоры выявілі ў час рэйду, але і даваліся канкрэтныя прапановы. Селькоры, напрыклад, прапанавалі зрабіць для жаробных кабыл закрытыя станкі на канюшнях, не пускаць кабыл на вадапой разам з усім табуном, ноччу дзяжурыць на канюшнях і асабліва сачыць за кабыламі, якія на жарабенні.

Спецыяльнае пасяджэнне праўлення калгаса было прысвечана абмеркаванню пытання аб доглядзе жаробных матак. Усе прапановы селькораў былі прыняты для неадкладнага правядзення ў жыццё. Зрабілі закрытыя станкі, устанавілі на канюшнях начныя дзяжурствы, увялі асобны рэжым кармлення і вадапою.

Гэта быў пачатак справы. Новы парадак догляду жаробных кабыл трэба было замацаваць, прывучыць да яго конюхаў і начных вартаўнікоў на канюшнях.

Аднойчы тав. Лапаценка разам з аграномам т. **Чычко** і актыўным селькорам т. **Краўцовым** зрабілі начную праверку канюшань. Калгас імя Леніна адзін з буйнейшых у раёне. Коні пятнаццаці паляводчых брыгад стаяць у васьмі канюшнях. Па чарзе правяралі начную варту ў кожнай канюшні. У выніку выявілі, што вартаўнік Каленік Лапаценка ў канюшні спаў. А пад яго наглядам былі кабылы, якія павінны былі з дня на дзень ажарабіцца.

Праўленне калгаса назаўтра-ж зняло нядбайніка з работы, а праз насценгазету ўвесь калгас даведаўся пра ўчынак Каленіка Лапаценка. Пасля гэтага выпадку селькоры яшчэ некалькі раз рабілі праверку таго, як даглядаюцца жаробныя кабылы, як сочаць за імі ў апошнія дні перад жарабеннем. Пра канчатковыя рэзультаты гавораць яшчэ рана: з пяцідзесяці жаробных кабыл пакуль што ажарабілася толькі адна, але ўстаноўлен факт, што даглядаюць жаробных кабыл цяпер у калгасе імя Леніна як належыць.

Наогул пытанням догляду коней, падрыхтоўцы коней да сяўбы насценгазета аддае выключна вялікую ўвагу, добра разумеючы, што конь у правядзенні сяўбы адыгрывае рашаючую ролю. У кожным нумары насценгазеты тры-чатыры заметкі аб конях. Заметкі вострыя, канкрэтныя, часта з малюнкамі, яны б'юць па выпадках дрэннага абыходжання і догляду коней як на канюшнях, так і на рабоце.

Калгаснік Куркай Іван вазіў дровы на калгасным кані. Вазы накладаў цяжкія, а не даглядзеў, як ляжыць падсядзёлак, ці спраўны хамут. І абмуляў каня.

Учынак Куркая не прайшоў бясследна. Газета моцна раскрытыкавала Куркая, патрабаваўшы ад праўлення неадкладнага рэагавання. Праўленне забараніла Куркаю працаваць на конях.

А то быў такі выпадак. Вазілі гной. Калгаснік Кірыла Козыр наклаў занадта вялікі воз, мала таго, яшчэ і сам узабраўся на воз. Не доўга так каля падарваць ці абмуляць. І гэты выпадак не абмінулі селькоры. Напісалі пра Кірылу Козыра заметку, ды яшчэ як размалявалі яго ў насценгазеце! Дзесятаму закажа цяпер Кірыла здзеквацца над канём.

Здорава дасталося ад насценгазеты і калгаснікам Змітру Громаву і Сцяпану Куркаю, якія таксама дрэнна адносіліся

да коней. А то аднойчы сам старшыня калгаса тав. **Адліўной,** збіраючыся ехаць у Церахаўку, так запрэг каня, што той сярод сяла распрогся. Не пасаромеліся селькоры і старшыню ў насценгазеце пакрытыкаваць: калі ты старшыня, дык будзь ласкаў пакажы другім калгаснікам, як трэба коней запрагаць.

Можна падаць доўгі пералік матэрыялаў, змешчаных у насценгазеце калгаса імя Леніна аб доглядзе коней, але і паданыя ярка гавораць аб вялікіх клопатах, якімі селькоры калгаса акружаюць калгасных коней. Часта сярод заметак аб конях можна сустрэць такую, у якой гаворыцца быццам пра дробны, нязначны факт: хоць-бы аб тым, што ў старшыні Адліўнога конь пасярод вуліцы распрогся. На самой справе гэта не дробязь, бо і такая заметка прыкоўвае ўвагу калгаснікаў да догляду коней, прывучае адносіцца да коней і ў часе работы і на канюшні па-гаспадарску, па-калгаснаму.

Хто-ж яны, гэтыя людзі, якія робяць насценгазету калгаса імя Леніна? Рэдактар насценгазеты Іван Лапаценка, камсамолец—брыгадзір трэцяй паляводчай брыгады, вядомы многім селькорам БССР. Ён быў дэлегатам III усебеларускага з'езда рабселькораў. Яго партрэт быў надрукован у «Звяздзе» і аб гэтым аднавяскоўцы тав. Лапаценка з гонарам успамінаюць.

Прыехаўшы са з'езда, тав. Лапаценка з яшчэ большай ахвотай і энергіяй узяўся за справу. А справы ў яго многа: падрыхтоўка брыгады да веснавой сяўбы, дый з насценгазетай работы хапае.

Брыгада тав. Лапаценкі—першая ў калгасе па падрыхтоўцы да сяўбы. Варта толькі зайсці на канюшню, дзе стаяць коні брыгады, ляжыць інвентар, збруя. Коней у брыгадзе даглядаюць узорна. Збруя ўся наладжана, старая заменена новай. Уся збруя змазана, падагнана да коней і мае свае пэўныя месцы — на слупах ля кожнага станка. Пастронкі, запасныя вяроўкі—усё падрыхтавана. Таварыш Лапаценка і яго брыгада цвёрда рашылі ў гэту веснавую сяўбу выйсці на першае месца не толькі ў калгасе, але і ў раёне.

У насценгазеты калгаса імя Леніна можна многаму навучыцца, асабліва таму, як насценгазеты і селькоры павінны змагацца за здаровага і моцнага калгаснага каня.

**Ю.**

**Калгас імя Леніна, Церахаўскі раён.**

# ВЫГАДУЕМ КОЖНАЕ ЦЯЛЁ

Пасля таго, як я прыехаў з III усебеларускага з'езда рабселькораў, наша насценгазета калгаса «Чырвоныя ўсходы» (Аршаншчына) паспела прарабіць вялікую работу. Асабліва вялікую ўвагу мы цяпер звяртаем на развіццё жывёлагадоўлі, на захаванне і вырошчванне маладняка.

На малочна-таварнай ферме мы стварылі насценгазету, і яна ўжо добра разгарнула работу. Газета, напрыклад, прапанавала выкапаць артэзіянскі калодзеж каля фермы, каб не трэба было далёка ганяць жывёлу на вадапой. Прапанова насценгазеты праведзена ў жыццё — калодзеж выкапан.

Па ініцыятыве насценгазеты на ферме наладжана работа гуртка зоатэхвучобы. Кожную пяцідзеўку ўсе работнікі фермы займаюцца ў гуртку, павышаюць сваю кваліфікацыю.

Селькоры ўзялі пад свой асабісты нагляд ход ацёлу кароў. Кожны член рэдкалегіі і селькор прымацован да некалькіх калгаснікаў. Прымацаваны селькор сочыць за тым, як калгаснік даглядае сваю карову перад ацёлам, калі дрэнна, указвае калгасніку, параіць яму, як трэба даглядаць. Таксама селькоры сочаць за тым, каб не было выпадкаў забою цялят.

Ёсць ужо і рэзультаты нашай работы. К 20 сакавіка ацяліліся каровы ў 40 калгаснікаў, прычым не было ні аднаго выпадку каб калгаснік зарэзаў цялё.

Праз насценгазету мы дабіліся таго, што кожны дзень раніцою і ўвечары робіцца агляд нарадзіўшыхся цялят як на ферме, так і ў калгаснікаў. Устаноўлены дзяжурствы на ферме спецыяльна па нагляду за новanaроджанымі цялятамі.

**Рэдактар насценгазеты І. БАЦЮКОЎ.**

# Уся справа ў якасці падборкі

Пад падборкай у газеце разумеецца некалькі заметак, звязаных агульнай тэмай і зверстаных у пэўным парадку. Дабаўлю, што частка газетных работнікаў уяўляюць сабе падборку ў выглядзе цэлай старонкі.

Не заўсёды тут справа абыходзіцца без непажаданых казусаў. Бывае, напрыклад, так. Атрымала рэдакцыя заметку селькора аб тым, што такі і такі калгас рашыў пабудаваць лазню. Як тут быць? Тыя газетныя работнікі, якія лічаць падборку адзінай формай газетнага матэрыялу, кладуць заметку пад сукно і чакаюць, пакуль пра будаўніцтва лазняў набярэцца некалькі заметак. Чакаць часта прыходзіцца доўга, і заметка старэе. **Так рабіць, зразумела, нельга.**

Зусім няма патрэбы затрымліваць друкаванне важнай і цікавай селькораўскай заметкі толькі з-за таго, што больш заметак на тую-ж тэму ў рэдакцыі няма. Дзейснасць заметкі ніколькі не зменшыцца, калі яна будзе надрукавана асобна. К таму-ж рэдакцыя мае магчымасць выдзеліць важную заметку ў газеце (надрукаваць яе на відным месцы, больш буйным шрыфтом і т. д.).

Ці трэба зусім адмовіцца ад падборак? На мой погляд, не трэба. ЦО ВКП(б) «Правда» не адмовілася ад падборак, наадварот, «Правда» ўсім нам, газетным работнікам паказвае ўзор, як трэба будаваць газетную падборку. З нумара ў нумар «Правда» друкуе падборку **«Партыйнае жыццё».** Над падборкай няма гучных «шапак», вярстаецца падборка проста, у адну калонку. Але гэта падборка адразу прыцягвае да сябе ўвагу. Я, напрыклад, пачынаю чытаць «Праўду» імення з падборкі «Партыйнае жыццё». У чым-жа сіла падборкі ў «Праўдзе»? У тым, што тэмы падборкі «Партыйнае жыццё» **актуальны, хвалюючыя кожнага партыйца,** у тым, нарэшце, што матэрыял падборак «Праўды» добра апрацаваны, завостраны, жыва пададзены.

Так што ўся справа не ў форме падборак, **а ў іх змесце, у тэматыцы, у якасці матэрыялу.**

Я лічу, што падборка ў раённай газеце павінна складацца не больш, як з 3-5 заметак. (Трэба мець на ўвазе пашырэнне тэматыкі газет). Тэматыка падборкі па аднаму і таму-ж пытанню ў кожным нумары павінна мяняцца. Падам такі прыклад. Раён, к прыкладу, дрэнна выконвае план мабілізацыі сродкаў. Зразумела, што газета павінна пэўны час пісаць аб фінансавых справах у кожным нумары. Але падборкі ў розных нумарах павінны неяк адрозніваца адна ад другой. Дасягнуць гэтага не так ужо цяжка. У адным нумары фінансавая падборка прысвячаецца, напрыклад, рабоце фінансавых секцый сельсаветаў, у другім — рабоце камісій садзейнасці дзяржкрэдыту, у трэцім—рабоце ашчадкас і т. д.

Але тут ужо нельга работнікам рэдакцыі, склаўшы рукі, чакаць самацёчных селькораўскіх заметак, а трэба па загадзя выпрацаванаму плану арганізоўваць матэрыял.

Падборкі, аднак, не павінны займаць усю плошчу газетнай старонкі. Побач з падборкамі трэба друкаваць асобныя артыкулы і заметкі па розных пытаннях жыцця раёна, калгасаў. Газета павінна высоўваць новыя пытанні, друкаваць раённую хроніку, паведамленні аб розных важных і цікавых падзеях у раёне.

У нашай газеце **«Ударнік калгасаў»** у апошні час мы так і робім. Надрукавалі асобныя артыкулы і заметкі аб спаборніцтве сем'яў калгаснікаў, аб рабоце чытальных і абаронных секцый сельсаветаў, аб рабоце рахункаводаў сельсаветаў, аб раймагу і інш. Увялі пастаянную падборку «Партыйнае жыццё».

**М. ФАРБЕРАЎ.**

**Рэдактар Церахаўскай раённай газеты «Ударнік калгасаў».**

# На абарону рабселькора!

## Вышэй аўтарытэт нізавой газеты!

Парыцкая раённая газета **«Ленінская перамога»** правяла праверку становішча рэагавання на пісьмы працоўных у радзе раённых установ і арганізацый. Абследванне паказала, што «ў такіх установах, як райза, пракуратура, судова-следчыя органы яшчэ і зараз пануюць грубабюракратычныя. антыпартыйныя адносіны да дапісаў селькораў і пісем працоўных.

Бюракратычныя адносіны да сігналаў друку, недацэнка велізарнага значэння ў нашым сацыялістычным будаўніцтве кожнага сігналу, кожнага пісьма працоўнага прывялі ў асобных мясцах да грубага зажыму крытыкі і самакрытыкі.

Дрэннаму прыкладу асобных раённых устаноў паследавалі ў некаторых калгасах. Раённая газета падае рад сігналаў зрыву ў калгасах насценных газет, праследвання селькораў. Старшыня калгаса «Ільіч» **Дайнэка Фядот** праследуе селькора **Цімаха Зялёнага** за яго заметкі ў раённай газеце аб злачынных дзеяннях старшыні. Дайнэка загадвае рэдактару калгаснай насценгазеты **Сасноўскаму Цімаху** зняць з насценгазеты напісаную пра Дайнэка заметку.

У калгасе «Колас» праследуецца былы батрак, селькор, комсамолец **Галанчык.** Яго дапісы беспакарана вырываюць з насценгазеты кулацкія агенты, п'яніцы і лодыры **Казачонак Саўка** і **Казачонак Андрэй.**

Старшыня калгаса «Чырвоная пабеда» **Белы Фёдар** накідваецца з кулакамі і грубай лаянкай на селькора **Запатылку Цімаха** за яго заметкі ў раённай газеце.

І ўсё гэта робіцца на вачаах партыйнай арганізацыі, райпракуратуры, міліцыі. Таму раённая газета правільна зрабіла, калі звярнула на гэтыя агіднейшыя факты ўвагу ўсёй партыйнай арганізацыі, усёй савецкай грамадскасці раёна.

Задача раённай газеты — пры дапамозе раённай партарганізацыі дабіцца карэнных змен у справе рэагавання на сігналы друку і пісьмы працоўных. Раённы камітэт партыі, судова-следчыя органы павінны неадкладна выступіць на абарону селькораў ад раз'юшаных агентаў класавага ворага. зажымшчыкаў самакрытыкі.

## Справа рэдактара насценгазеты тав. Галузы

Рэдактар насценгазеты, дзяжурны слесар **Обальскага ільнозавода,** выступіў на старонках сіроцінскай раённай газеты **«Ленінскі шлях»** з крытыкай недахопаў у рабоце дырэктара завода **Стаховіча** і старшыні заўкома **Шпакова.** Смелае і рашучае выступленне тав. **Галузы** супроць п'янства Стаховіча і Шпакова, супроць непарадкаў і злоўжыванняў на ільнозаводзе, абурыла кіраўніцтва завода. Загадам адміністрацыі дзяжурны слесар П. Галуза і яго сястра Ольга Галуза былі звольнены з работы.

У справу ўмяшалася раённая газета. На ільнозавод быў камандзіраван работнік рэдакцыі, які сумесна з упаўнаважаным ЦСПСБ дэтальна азнаёміўся з сутнасцю справы. Выявіўся агіднейшы малюнак праследвання тав. Галузы — рэдактара насценгазеты, які не гледзячы на асобы крытыкаваў недахопы ільнозавода. Каб больш замаскаваць прычыны звальнення з работы рэдактара насценгазеты, адміністрацыя спасылалася на тэхнарука і пастанову тэхнарады. Аказалася, што на гэтай нарадзе былі ўсе тыя, каго тав. Галуза смела выкрываў у насценнай і раённай газетах. За звальненне тав. Галузы галасавалі члены тэхнарады: той-жа старшыня заўкома Шпакоў, пажарны інструктар, лятун і п'яніца Новікаў, раскрадвальнік сацыялістычнай маемасці Купрыянаў, дачка высланага за межы БССР лішэнца Пальвінская ды Фромін — загадчык гаспадаркай, якога судзілі ў свой час за ашуканства.

Азнаёміўшыся з усімі гэтымі фактамі, упаўнаважаны ЦСПСБ прапанаваў неадкладна аднавіць на рабоце Галузу і яго сястру. Аднак, адміністрацыя заявіла пратэст.

Раённая газета, якая своечасова выступіла на абарону рабкора і рэдактара насценгазеты ад праследванняў класава-варожых элементаў і зажымшчыкаў крытыкі, павінна давесці пачатую справу да канца. Справай тав. Галузы павінна зацікавіцца і раённая партыйная арганізацыя, і райпракуратура.

З апошняй пошты

# Як нельга паказваць перадавікоў

Паказваць перадавікоў — адна з галоўнейшых і найбольш пачэсных задач бальшэвіцкага друку. Ні адна газета не можа паскардзіцца на недахват аб'ектаў для такога паказу, але далёка не ўсе нашы газеты паказваюць лепшых людзей нашага часу як належыць.

Прычына — у несур'ёзным падыходзе асобных рэдакцый да гэтай важнейшай справы. У такіх выпадках замест сапраўднага паказу ўдарніка такім, які ён ёсць на рабоце і ў быту, атрымліваецца пазбаўленая жыцця схема. А бывае і таго горш.

Аб адным з такіх выпадкаў мы і хочам тут расказаць.

13 сакавіка ва **уваравіцкай** раённай газеце **«Калектывіст»** мы прачыталі нарыс С. **Богуша «Перадавая брыгада Насці Шаршнёвай»**. Гэты нарыс выклікае ў чытача рад пытанняў. Сярод іх галоўнае — чаму-ж усё такі брыгада Насці Шаршнёвай перадавая?

З аўтарам здарыўся прыкры казус: яму не ўдалося даказаць асноўнага, да чаго ён імкнуўся, пішучы нарыс. Чаму так здарылася, няцяжка выясніць з самога-ж нарыса.

Тав. Богуш не вывучыў работы брыгады Насці Шаршнёвай, ён нават не пазнаёміўся з калгаснікамі гэтай брыгады, а напісаў нарыс выключна на аснове размоў, якія адбываліся на працягу поўгадзіны ў праўленні калгаса.

Такога павярхоўнага матэрыялу для нарыса аказалася недастаткова, і аўтар прымушан быў звярнуцца да такіх зусім непераканаўчых высокапарных фраз, як: «Праца яе ўдарнай, узорнай брыгады квітнее перамогамі», «Лепшая з нашых людзей у калгасе» і т. д. Такімі дыфірамбамі і запоўнен увесь нарыс.

Ці могуць, аднак, гэтыя фразы **пераканаць** чытача? Ці можа радавы калгаснік ці брыгадзір, прачытаўшы такі нарыс, **навучыцца** чаму-небудзь? Не, не могуць.

Значыць, справа не ў тым, каб без канца і меры абсыпаць перадавіка-ўдарніка хоць-бы і самымі найпрыгажэйшымі імёнамі, а ў тым, каб на **канкрэтных прыкладах і фактах паказаць, як гэты ўдарнік працуе, чым яго праца адрозніваецца ад працы другіх калгаснікаў неўдарнікаў, ад другіх брыгадзіраў**. І вось, калі-б у нарысе С. Богуша так была паказана брыгадзір Шаршнёва, чытач без дапамогі нарысіста сказаў-бы: «Так, Насця Шаршнёва сапраўдная ўдарніца, яна знатны чалавек у калгасе і раёне, у яе трэба вучыцца».

Вышла-ж наадварот: нарысіст распінаецца, выдумляючы, як-бы прыгажэй, гучней назваць Насцю Шаршнёву, а чытач справядліва пытае: «У чым справа? Што-ж такое адменнае ад другіх брыгад зрабіла брыгада Насці Шаршнёвай?»

Гэта, аднак, не ўсё. Вялікае значэнне мае таксама тое, як падан матэрыял нарыса, яго стыль і мова. Падамо вытрымку з нарыса (стыль усіх вытрымак захаван):

**— А як у вас справа абстаіць з коньмі?—запытаўся я ў гэтага знатнага чалавека калгаса, дваццаці гадовай брыгадзіршы.**

**— Ну, браток умяшаўся старшыня—наконт коней тут ты да яе ніяк не падкапаешся, коні ў яе нібы ў Чырвонай арміі і маюць вельмі ўзорны выгляд і да веснавой сяўбы гатовы.**

**— Правільнае кармленне, вадапой, чыстка і ДОБРАСУМЛЕНЫЯ АДНОСІНЫ З БОКУ СТАРШЫНІ (падкрэслена намі.—Рэд. «Б. Д.») зрабілі тое, што мы сваімі коньмі маем права ганарыцца не толькі ў калгасе, але і ў раёне»...**

Апошнія словы прыпісаны С. Богушам брыгадзіру Насці Шаршнёвай. Іменна

прыпісаны, бо ўпэўнена можна сказаць, што т. Шаршнёва такою сухою, канцэлярска-суконнаю моваю не гаворыць.

Але асаблівую ўвагу мы звярачаем на змест паданай вытрымкі. Спачатку старшыня калгаса хваліць брыгадзіра, потым брыгадзір Н. Шаршнёва ў сваю чаргу хваліць старшыню. Атрымалася якраз як у Крылова: «Кукушка хвалит петуха за то, что хвалит он кукушку».

Вінават зноў-жа аўтар нарыса, які замест таго, каб зразумелай мовай, талкова расказаць аб рабоце перадавой брыгады, пачаў «сочинять» ад сябе.

Няўдала атрымалася ў нарысе і апісанне знадворнага выгляду Насці Шаршнёвай. Вось адпаведнае месца нарыса:

**«Яна ўскінула ў гару ВУГАЛОЧКІ ВАЧЭЙ І НЕПРЫКМЕТНА ПРАБЕГЛА ПА МАЁЙ ВОПРАТЦЫ. (Падкрэслена намі.—Рэд. «Б. Д.»).**

Дарослы чалавек прабег па вопратцы нарысіста, а той нават не заўважыў гэтага! Дзіўна, вельмі дзіўна. Зусім няўдалы выраз: «ускінула ў гару вугалочкі вачэй».

А што трэба сказаць пра такі «вобраз» з нарыса, як:

**«Весела ўсміхаючыся і ПЕРАСТУПАЮЧЫ З НАГІ НА НАГУ (падкр. намі. Рэд. «Б. Д.») устаўляе свой голас брыгадзірша»?**

У давяршэнне да ўсяго нарыс надрукован на рэдкасць **няграматна, неахайна.**

Паказ лепшых ударнікаў соцыялістычнага будаўніцтва і абароны нашай радзімы вельмі ганаровая справа для кожнай газеты, кожнага советскага журналіста. Тым з большай адказнасцю, з большай любоўю і энтузіязмам советскія журналісты павінны працаваць над гэтай справай. Ніхто не даў права ні аднэй нашай газеце замест сапраўднага паказу ўдарнікаў змяшчаць карыкатуры на іх—лепшых людзей нашага часу.

**Карыкатурныя заметкі**

## ПЛОД НЯГРАМАТНАСЦІ РЭДАКТАРА

Рэдактар **«Прымежнага калгасніка»** (Ушачы) т. **Хрысціініч** быў вельмі задаволен. Гэта-ж падумаць толькі: да рэлігійнага свята вялікадня яшчэ больш тыдня, а ў рэдакцыі ўжо ляжыць гатовы антывялікодны артыкул.

Змест артыкула рэдактара мала цікавіў, тым больш, што сам ён вельмі мала разбіраецца ў антырэлігійных пытаннях. Што-б там ні было напісана, абы артыкул быў — рашыў т. Хрысцініч і хутчэй здаў артыкул у набор.

І вось 13 красавіка ў «Прымежным калгасніку» з'яўляецца артыкул — «Антывялікодную кампанію адзначым масавай сяўбой».

Аўтар артыкула, скромна схаваўшыся за двума літарамі **М—Н**, адразу бярэ «быка за рогі», пачынае з глумачэння сутнасці «вялікодня».



Рыс. М. МАЛЕВІЧА.

**«Набліжаецца ЯЎРЭЙСКАЕ «СВЯТА» ВЯЛІКДЗЕНЬ. Змест гэтага «свята» састаіць у тым, што яўрэі нібыта калісці былі ў Егіпце («міцраім») адтуль былі выгнаны фараонам і пры гэтым узяты пад апеку бога. Ён як быццам твары розныя «цуды» і ў адзнаку гэтага «вызвалення» ПА НЕ СВЯДОМАСЦІ ПРАЦОЎНЫХ ЯЎРЭЯЎ святкуецца гэта кулацкі вялікдзень» (падкрэслена тут і ў далейшых вытрымках намі. — РЭД. «Б. Д.»).**

Вось ужо сапраўды «навуковае» тлумачэнне! А чаго варты падкрэсленыя намі месцы ў гэтым абзацы? Пачаўшы з цверджання, што «вялікдзень» — свята

ўсіх яўрэяў (у артыкуле-ж так і напісана (**«яўрэйскае свята» вялікдзень»**), аўтар затым яшчэ раз узводзіць паклёп па яўрэйскіх працоўных, абвінавачваючы ўсіх працоўных яўрэяў у несвядомасці (**«Па несвядомасці працоўных яўрэяў**
святкуецца гэты кулацкі вялікдзень»).

Зрабіўшы такі «вывад», аўтар піша далей:

**«Даследванне вучоных паказала, што яўрэі ў егіпце не былі і ПАХОДЖАННЕ ГЭТАГА СВЯТА АДНОСЯЦЬ ДА КЛАСАВАГА ГРАМАДСТВА, КАЛІ ЯЎРЭІ ЗАЙМАЛІСЯ ЖЫВЕЛАГАДОЎЛЯЙ. Кожны год яны прынасілі ахвяры шматлікім багам. З ПЕРАХОДАМ ДА «СВЕТЛАГА» ЖЫЦЦЯ, гэты абрад відазмяніўся, пачалі прыносіць ахвяры ў выглядзе першых пладоў ураджайнасці».**

Увесь артыкул «узбагачан» такімі сказамі, як:

**«уся лягенда» прыкрашана вельмі густым шавінізмам»**

(Нібы шавінізм бывае густы або рэдкі!) як:

**«выпаўзаюць плады былых спекулянтаў, гандляроў з довадамі».**

І ўся гэта бязглуздая, звышнязграматная, шкодная балбатня выдаецца рэдакцыяй ушацкай газеты за антырэлігійны артыкул, ды яшчэ з прэтэнзіяй на навуковасць.

Толькі абсалютнай безадказнасцю і няграматнасцю рэдактара т. Хрысцініча можна вытлумачыць з'яўленне гэтага артыкула на старонках «Прымежнага калгасніка».

# ПРА „САМАДЗЕЙНУЮ АЛІМПІЯДУ" І САМАДЗЕЙНАСЦЬ МСЦІСЛАЎСКАЙ ГАЗЕТЫ

7 красавіка **«Большэвік Мсціслаўшчыны»** заклікае аб рыхтуемай раённай алімпіядзе мастацкай самадзейнасці, ці, як яе называюць у рэдакцыі мсціслаўскай газеты, «мастацка-самадзейнай алімпіядзе».

Раз справа ідзе аб самадзейнай алімпіядзе, трэба праявіць самадзейнасць і ў матэрыяле аб гэтай алімпіядзе — рашылі ў рэдакцыі.

І пачалі, гаворачы словамі работнікаў рэдакцыі, «ажыццяўляць самадзейнасць». Пачалі з таго, што падзялілі самадзейныя гурткі на «аднаасобныя і групавыя». Так і напісалі:

**«На мастацкай алімпіядзе будуць выступаць драматычныя, музычныя і харавыя гурткі — аднаасобныя, групавыя, выкананння мастацкага чытання, пенія, пляскі, выкананне на музычных інструментах, гармошках, балалайках, скрыпках і інш.».**

**(Падкрэслена ўсюды намі. — РЭД. «Б. Д.»).**

«Мастацкае чытанне спеваў» (мсціслаўская газета чамусьці піша «пенія») — гэта сапраўды новы від мастацкай самадзейнасці, таксама, як і «выступленне выканання на музычных інструментах».

Але, аказваецца, рэдакцыя мсціслаўскай газеты прад'яўляе ўдзельнікам алімпіяды патрабаванне не толькі мастацкі чытаць спевы, але і «іграць спевы». Яна выражае надзею, што

**«Сярод моладзі нашага раёна знойдуцца сотні маладых калгаснікаў, рабочых і служачых здольных з гэрдасцю выканаць любую ігру пенія».**

Самадзейнасць работнікаў рэдакцыі адчуваецца і ў іншых матэрыялах гэтага нумара. Яна праяўляецца хоць-бы ў такіх словах, як «праводзюць», «лехкай», «прыўсядзібны», такіх сказах як:

**«на скатабойні адсутнічае санітарнае становішча, гразь».**

(вельмі добра, калі на бойні няма гразі), як:

**«вокны не заклеены, праз якія ўлязаюць сабакі»,**

або

**«Выбіў Немцаў два зубы калгасніку Немцаву Ціту не вядома за што».**

І нават, калі вядома за што, т. Іваноў, усё роўна нельга нікому выбіваць зубы.

а вы абвінавачваеце Немцава толькі ў тым, што ён выбіў калгасніку зубы не ведаючы за што.

Вось, бачыце, т. **Іваноў,** што куды карысней было-б, калі-б вы накіравалі самадзейнасць работнікаў вашай рэдакцыі на хутчэйшае ліквідаванне сваёй недапушчальнай непісьменнасці.

# НЕ ВЕР ВАЧАМ СВАІМ



**«На здымку: Батвінік і Флор разыгрываюць апошнюю партыю міжнароднага шахматнага турніра».**

Нават і не ведаючы асабіста чэмпіёна СССР па шахматах т. **М. Батвініка** і экс-чэмпіёна свету **Х. Р. Капабланка,** можна адразу пераканацца, што на гэтым здымку сфатаграфіраваны іменна М. Батвінік і Х. Р. Капабланка. На гэта красамоўна ўказваюць прызвішчы ігракоў на таблічках стала.

Якое-ж было здзіўленне ушацкіх таварышоў, калі яны 19 сакавіка разгарнулі сваю раённую газету **«Прымежны калгаснік»** і прачыталі пад гэтым-жа клішэ наступнае:

**«На здымку: Батвінік і Флор разыгрываюць апошнюю партыю міжнароднага шахматнага турніра».**

У Козьмы Пруткова ёсць выдатны афарызм: «Калі на клетцы слана прачытаеш надпіс «буйвал» — не вер вачам сваім». Раім ушацкім таварышам кіравацца гэтай мудрай парадай пры чытанні сваёй раённай газеты.

Рыс. **М. Малевіча.**



# Ініцыятыва практыка вопыт

## «НАД КАЛГАСНЫМІ ПАЛЯМІ».

Старобінская раённая газета **«Калгаснік Старобіншчыны»** друкуе падрабязную справаздачу аб ходзе аэрасяўбы ў калгасе «Прамень комуны». За 10-е красавіка самалётамі засеяна 65 га аўса. Перад пачаткам аэрасяўбы ў калгасе праведзен вялікі мітынг, на якім прысутнічалі і калгаснікі суседніх калгасаў.

У брыгадзе, якая абслугоўвае аэрасяўбу, вышаў першы нумар насценгазеты **«Над калгаснымі палямі».** Насценгазета паказвае лепшых ударнікаў аэрасяўбы, расказвае аб калгасніках, якія паказалі найбольшую хуткасць нагрузкі насення ў самалёты.

## ПАХОД СЕЛЬКОРАЎ ЗА ВЫСОКАЯКАСНЫ ЛЁН

Селькоры Клімавіцкага раёна ўключыліся ў абвешчаны ўсебеларускім з'ездам рабселькораў паход за высокаякасны лён. Па ініцыятыве дэлегата III усебеларускага з'езда рабселькораў тав. **Лукашэнкі** і рэдкалегіі насценгазеты ў калгасе «Пралетарская дыктатура» ў кожнай брыгадзе створаны селькораўскія пасты па нагляду за якасцю сяўбы ільну.

Удзельнікі раённага злёта — рэдактары калгасных насценгазет, уключыўшыся ва ўсебеларускі паход імя тав. Гікало, узялі на сябе рад абавязацельстваў па лепшаму нагляду за вырошчваннем ільну. У калгасных брыгадах ствараюцца селькораўскія пасты па нагляду за якасцю ранняй сяўбы ільну.

Раённая газета **«Комуна»** змясціла ўжо некалькі падборак і старонак, прысвечаных селькораўскаму паходу за высокаякасны лён. 4 красавіка «Комуна» надрукавала пісьмо аб вопыце ранняй сяўбы ільну ў калгасе «Усход». Вопыт правадзіў дэлегат III усебеларускага з'езда рабселькораў тав. Лукашэнка.

## «ЗА КУЛЬТУРНЫ СЕЛЬСОВЕТ».

Пад такім лозунгам уключылася ў паход за культурную канцэлярыю сельсовета Уваравіцкая раённая газета **«Калектывіст».** Газета праводзіць агляд становішча сельсовецкіх канцэлярый. 7-га красавіка газета паказала работу Аздзелінскага сельсовета і становішча яго канцэлярыі. Сельсовет знаходзіцца ўсяго толькі за 7 кілометраў ад раённага цэнтра. Але «памяшканне сельсовета нагадвае нейкае сутарэнне. З надворнага выгляду будынак як будынак, але калі вы напададзеце ў сярэдзіну, то адразу думаеце, што памыліліся. У першым пакоі ў куце звалена вялікая куча смецця, астатнія куты завалены коллем. У канцэлярыі ўсяго толькі адно крэсла і тое без сядзення. Падлогі з-за смецця не відаць».

Увесь паход за чыстую і культурную канцэлярыю газета праводзіць пад лозунгам: «Ператворым усе сельсоветы Беларусі ў сапраўдныя культурныя цэнтры калгаснай вёскі».

## «КАЛГАСНЫЯ НАВІНЫ»

Старобінская раённая газета **«Калгаснік Старобіншчыны»** ўвяла на сваіх старонках новы аддзел «Калгасныя навіны». У аддзеле «Калгасныя навіны» газета змяшчае кароценькую інфармацыю аб новых поспехах таго ці іншага калгаса, аб ходзе падрыхтоўкі да сяўбы і т. д. У нумары за 31 сакавіка ў аддзеле «Калгасныя навіны» расказваецца аб прыездзе ў калгасы Мяцявіцкага сельсовета трактарнай брыгады, аб датэрміновым выкананні калгасам «Цвет палесся» план мясапастаўак, аб арганізацыі ў калгасе «Перадавік» шавецкай і рымарнай арцелі, аб адкрыцці амбулаторыі, цырульні і т. д. Тут-жа коратка паведамляецца аб росце культуры ў калгасе «Новы шлях», дзе вуліцы высцілаюцца тратуарамі, абсаджваюцца дрэвамі.

## КОНКУРС НА ЛЕПШАЕ ПРАВЯДЗЕННЕ СЯЎБЫ

Бюро аршанскага РК КП(б)Б і РВК абвясцілі конкурс сельсоветаў, калгасаў, брыгад і насценгазет на лепшае правядзенне веснавой сяўбы. У разгортванні конкурса вялікую ролю павінны адыграць нізавыя агульнакалгасныя і брыгадныя насценгазеты. Умовы конкурса патрабуюць арганізацыі ў кожным калгасе, у кожнай брыгадзе аператыўнай штодзенкі, выпуску насценгазет у полі, разгортвання сацспаборніцтва паміж рэдкалегіямі насценгазет на лепшую работу на сяўбе. Пры сельсоветах ствараюцца фотагазеты і фотавітрыны лепшых ударнікаў веснавой сяўбы. Для прэміравання лепшых ударнікаў-калгаснікаў, старшынь калгасаў і брыгадзіраў, інспектароў па якасці, рэдактароў насценгазет вызначана 20 гадзіннікаў, 5 патэфонаў, 3 веласіпеды, пуцёўкі на курорт, швайныя машыны і інш.

## ВЫЯЗНАЯ РЭДАКЦЫЯ НА ІЛЬНОПРАДЗІЛЬНАЙ ФАБРЫЦЫ

Лёзненская раённая газета **«Ленінскі шлях»** накіравала выязную рэдакцыю на ільнопрадзільную фабрыку імя Карла Маркса. 1-га красавіка вышаў трэці нумар друкаванай газеты выязной рэдакцыі. Выязная рэдакцыя паставіла задачай дапамагчы фабрыцы, на якой працуе ла 800 чалавек, у выкананні плана выпуску пражы.

## КУРСЫ РЭДАКТАРОЎ КАЛГАСНЫХ НАСЦЕНГАЗЕТ

Рэдакцыя лепельскай **«Калгаснай праўды»** правяла сямідзенныя курсы рэдактароў агульнакалгасных і брыгадных насценгазет. Курсанты азнаёміліся з формамі і метадамі масавай работы лепшых калгасных насценгазет БССР, вывучылі такія пытанні, як правядзенне рэдкалегіямі нізавых газет конкурсаў, рэйдаў, аглядаў і інш. У рабоце курсаў шмат увагі было аддана пытаням планавання работы рэдкалегіі калгаснай насценгазеты.

## ЗАВОЧНЫЯ КУРСЫ ПА ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ

Менская раённая газета **«Шлях соцыялізма»** арганізавала на сваіх старонках завочныя курсы па пытаннях злучкі жывёлы. У цыкл лекцый завочных курсаў уваходзяць лекцыі аб конскай злучцы, аб ялавасці кароў і злучцы рагатай жывёлы, свіней і авец.

Лекцыі завочных курсаў, якія друкуюцца на старонках газеты, прапрацоўваюцца ў калгасных фермах.

## ДЗЕЦІ АБ СВАЁЙ ШКОЛЕ

Газета **«Ленінскі прызыў»** (Орша) прысвяціла адзін са сваіх нумароў паказу лепшай у раёне поўнай сярэдняй школы. На старонках раённай газеты выступілі вучні старэйшых класаў, камсамольскі арганізатар, піонерработнік. Праз старонкі газеты вучні расказалі бацькам аб сваёй вучобе, аб лепшых спеваках, танцорах, мадэлістах. Яны паказалі лепшых маладых майстроў і канструктароў, якія скончыўшы сярэднюю школу, пойдуць у ВНУ, стануць інжынерамі, тэхнікамі.

## У ДАПАМОГУ МІЖКАЛГАСНАМУ АБМЕНУ НАСЕННЕМ

Каб дапамагчы калгасам Меншчыны ў хутчэйшым набыцці патрэбнага насення траў або гародніны, раённая газета **«Шлях соцыялізма»** пачала друкаваць спісы і адрасы калгасаў, якія жадаюць купіць, ці абмяняць, або самі маюць для продажу тое ці іншае насенне.

Друкаванне такіх абвестак пазбаўляе калгасы ад лішніх паездак на пошукі насення, дае магчымасць таму ці іншаму калгасу хутчэй збыць лішкі свайго насення. Гэта каштоўная ініцыятыва заслугоўвае ўвагі і іншых раённых газет БССР.



Менск, друкарня „Звязды" Здана ў набор 12—IV-.35 г. Падпісана да друку 19—IV—35 г.
Уп. Галоўлітбела №—2.873 Тыраж 1.125 экз. 2 з пал. друк. арк. У арк. 75.000 зн.

